
З НОВЫМ ГОДАМ!

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Мікалайкі ў Чыжах →3

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 02 (2957) Год LVIII | Беласток, 13 студзеня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Размова з **Анатолем Вапам**, дырэктарам Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства.


Анатоль Вап

# Скарачэнні на адну шостую

**«Ніва»: — Сустракаемся некалькі гадзін да канца 2012 года. Які быў гэта год для падляшскай культуры?**

Анатоль Вап: — Добры. Удалося зрэалізаваць шмат цікавых мерапрыемстваў і з фінансамі было таксама добра. Мелі мы больш сродкаў, а затым выдаткаў на культуру, чым у 2011 годзе.

**— Як зразумець выказванні прадстаўнікоў падляшскай управы, што на культуру на Падляшшы самаўрад расходуе найбольш ва ўсёй краіне?**

— На культуру выдаем аж каля дзесяці адсоткаў ваяводскага бюджэту. І якраз у гэтым плане мы з'яўляемся на першым месцы ў Польшчы. У абсалютных лічбах, значыць, залатоўках, таксама выглядаем ненайгорш. Больш ад нас расходуюць на культуру толькі некалькі рэгіёнаў, такіх як Мазовія, Малапольшча, Вялікапольшча ці Сілезія.

**— Найбольшы поспех у сферы падляшскай культуры ў мінулым годзе?**

— Гэта, усё ж, цяжкае пытанне, бо якраз у 2012 годзе мелі мы іх некалькі і прытым вялікага маштабу. Я пералічыў бы іх тут некалькі, засяродзіўшыся, зразумела, на ваяводскіх мерапрыемствах. Скажам, юбілей 50-годдзя Музея сельскай гаспадаркі імя кс. Кшыштафа Клюка ў Цеханоўцы, у час якога сарганізавана было шмат культурных мерапрыемстваў найвышэйшага рангу, прытым унікальных у маштабе краіны. Пахвалімся таксама, што Музей валодае найбольшай у Польшчы калекцыяй тэхнічна спраўных трактароў і паравых лакамабіль. Дзеянні Музея былі дацэнены таксама Прэзідэнтам РП Браніславам Камароўскім. У 2012 г. адбыўся таксама нетыповы, бо названы *20+2, значыць што відаць з Пагранічча* юбілей Асяродка «Пагранічча — мастацтваў, культур, народаў» у Сейнах ды ў сядзібе Міжнароднага цэнтра дыялогу ў Краснагрудзе. За сем дзён «Пагранічча» запрэзентавала свае дзеянні і праекты. Юбілей стаў платформай дыялогу аб магчымасцях і перспектывах далейшай працы і рэфлексіі над практыкай дыялогу і інтэркультурнасці ў сучасным грамадстве, кранутым крызісам тоеснасці і супольнасці. Тыднёвае святкаванне юбілею Асяродка сабрала ўдзельнікаў розных прафесій з розных бакоў свету, між іншым з Польшчы, Нямеччыны, Бутана, Беларусі, ЗША, Сербіі, Літвы, Галандыі, Англіі. Ды найважнейшымі я лічыў бы дзве падзеі. Першая гэта, вядома, інаўгурацыя мастацкага сезона ў новым гмаху Падляшскай оперы і філармоніі. Другая — гэта нарада публічнай дыпламатыі, якая па ініцыятыве Міністэрства замежных спраў і пры ўдзеле нашай Управы адбылася ў Беластоку (прыняло ў ёй удзел каля 80 прадстаўнікоў польскай дыпламатыі з пасольстваў, консульскіх устаноў, Польскіх інстытутаў ды Міністэрства замежных спраў адказных за культуру і публічную дыпламатыю з усяго свету — М. Х.).

**— А якія вынікі тае нарады?**

— Была гэта дасканалая нагода для наладжання новых кантактаў і супрацоўніцтва з абсягу культурных дзеянняў, што ў найбліжэйшай будучыні павінна прынесці канкрэтныя дзеянні. Памятайма, што нарада адбылася ў верасні і некаторыя задумы знаходзяцца яшчэ ў тракце абгрунтавання і рэалізацыі. Адным з першых вынікаў з'яўляецца выезд Тэатра «Вершалін» на Украіну ў Адэсу, дзе ў Акадэмічным расійскім тэатры прадставілі спектакль «Вершалін — рэпартаж аб канцы свету», а ўжо ў 2013 г. «Вершалін» едзе ў Токіо з чарговым спектаклем. Падляшскі музей і Музей сельскай гаспадаркі пачалі супрацоўніцтва з музеямі м.інш у Беларусі. А ўжо аб дзейнасці ў гэтай галіне Падляшскай оперы і філармоніі нават не буду распавядаць, таму што шырока прадставілі яе СМІ, у тым ліку таксама «Ніва». Я хацеў бы ў гэтым месцы звярнуць увагу на факт, што нашы дзеянні ў гэтай галіне падтрымліваюць міністэрствы культуры, замежных спраў ды адміністрацыі і лічбавізацыі.

**— Як будзе далей выглядаць супрацоўніцтва Падляшскага ваяводства ў абшары культуры ў рамках Усходняга партнёрства, асабліва з Беларуссю?**

— Я думаю, што будзе развівацца, прытым у шмат якіх галінах. У снежні арганізавалі мы нараду, прысвечаную ахове драўлянай архітэктуры Падляшша, абмяркоўваючы гэтую праблему супольна з літоўцамі і беларусамі. Прысутны быў прадстаўнік Беларусі з Музея народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцы каля Мінска. Планаваны рабочы візіт Драмтэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Мінск па запрашэнні Акадэмічнага тэатра беларускай драматургіі. Супрацоўніцтва ўжо заінцыявала і развівае Падляшская опера і філармонія з падобнымі ўстановамі ў Беларусі і іншых краінах Усходняга партнёрства. Плануюцца рабочыя візіты прадстаўнікоў ваяводскага самаўрада і нашых культурных устаноў у некалькі краін, якія без сумненняў дадуць плён у выглядзе супольных міжнародных праектаў.

**— Паявілася задума, каб незалежны беларускі Вольны тэатр Мікалая Халезіна, які дзейнічае перш за ўсё ў эміграцыі па палітычных прычынах, знайшоў сядзібу па-за межамі сваёй краіны ў Беластоку, пры Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі. Што Вы скажаце на гэта як начальнік дырэктаркі «Вянгеркі»?**

— Ідэя напэўна цікавая і вартая падтрымкі. Вольны тэатр вядомы ва ўсёй Еўропе і не толькі. Ініцыятыва і галоўная роля належыць тут, вядома, дырэкцыі Драмтэатра. Як разумею, ёсць партнёр да размоў з Вольным тэатрам. Маршалкоўская ўправа можа тут толькі дапамагчы, не можа аднак умешвацца ў планы і мастацкую дзейнасць устаноў культуры, дарэчы, датычыць гэта таксама апошніх нашых культурных устаноў ды іншых устаноў і згуртаванняў. Тым не менш, напэўна гэтая ініцыятыва можа разлічваць на падтрымку Маршалкоўскай управы. Напэўна зможам дапамагчы ў пошуках сродкаў з іншых крыніц.

**— На якія праблемы натыкаюцца падляшскія культурныя ўстановы, кажучы, з Беларуссю?**

— У гэты час супрацоўніцтва ладзіцца значна лепш і нейкіх больш сур'ёзных праблем цяпер няма. Заадно так беларускі бок, як і мы такім супрацоўніцтвам зацікаўлены і падтрымліваецца яно з абодвух бакоў. Падыходзім да яго вельмі талкова, таксама калі гаворка аб працы дыпламатычных устаноў па абодвух баках мяжы. Сустракаецца яно з поўным зразуменнем і падтрымкай.

**— Пытаюся пра гэта таму, што нядаўна была падпісана дамова паміж ведамствамі абедзвюх краін аб культурным супрацоўніцтве да 2014 года. Няма ў ім літаральна пералічаных, напрыклад, падляшскіх міжнародных фестываляў, падтрымліваных Міністэрствам культуры, а ёсць варшаўскія, кракаўскія, ольштынскія, люблінскія. Абмінулі такія фестывалі, як Фестываль беларускай**

працяг ☞10





# Паберажомся

Беларусь увайшла ў аб'яўлены яе кіраўніцтвам год беражлівасці. Ідэя не новая. Яшчэ кіраўніцтва СССР, як убачыла, што давяло эканоміку да краху, абвесціла неўміручы лозунг, што эканоміка мусіць быць эканомнай. Цяпер нешта падобнае ў нас. Цікава, чаму нам, беларусам, менавіта цяпер стала так патрэбна стаць такімі беражлівымі?

Колькі разоў мы чулі ад айчыннай сістэмы прапаганды, што чарговы год, ці нават нейкая канкрэтная зіма будуць пераломнымі. Перазімуем, маўляў, а там лягчэй будзе. Ці збяром багаты ўраджай, і ўсе праблемы адыдуць у нябыццё. І народ стараўся. Ураджаі збіралі нібыта багатыя, зімы неяк перазімоўвалі. І вось дайшлі нарэшце да вострай неабходнасці стаць надзвычай беражлівымі.

Здавалася б, калі меркаваць па заявах усё той жа дзяржаўнай прапаганды, мы ўжо даўно павінны прайсці тую рысу, дзе адзіным варыянтам не згубіць порткі ёсць тужэйшае зацягванне дзяжкі. Бо ўжо хутка два дзесяткі гадоў міне з таго часу, калі кіраўніцтва пачало рабіць усё правільна, усё бездакорна і беспамылкова. І краіну з каленяў падняло, і эканамічныя сувязі, разарваныя пасля скону СССР, аднавіла. І не дало прыватызаваць народнае багацце ў выглядзе калгасаў ды дзяржаўных прадпрыемстваў. І прадпрыемствы тыя аднавіла ды мадэрнізавала. І датацыі ў сельскую гаспадарку не шкадавала. Аграгарадкі прыдумала. І шмат чаго яшчэ прыдумала. І гэта толькі дасягненні ўнутранай палітыкі.

На знешнепалітычным полі поспехі яшчэ большыя. І новыя сувязі наладжаныя з такімі краінамі як Кітай і Венесуэла. А лацінаамерыканскі рынак ужо не можа без нашых МТЗ і БелАЗаў. Нават з Еўропай паказальнікі растуць імкліва. Што там гаварыць пра В'етнам ці Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. А чаго каштуе сяброўства з Іранам. Ды колькі яшчэ тых дасягненняў, усіх і не пералічыць.

Калі верыць дзяржаўным СМІ, то паўсюдна адны поспехі. І гэта мы яшчэ не абмяркоўвалі тых неверагодна грандыёзных дасягненняў, зразумела, што па версіі ўсё той жа айчыннай прапаганды, якіх дасягнула нашае кіраўніцтва ў межах СНД і Беларуска-Расійскай адзінай дзяржавы. Пра Расію размова ўвогуле асобная. Калі верыць завярэнням нашых ідэолагаў, то складваецца ўражанне, што нам больш нічога і не трэба, акрамя гэтых адносін. Адтуль нам усё, нібыта, сыплецца як манна нябесная. І газ ды нафту мы атрымліваем па асобных тарыфах, ды і іншыя энерганосьбіты таксама. А сваёй прадукцыяй дык усе рынкі Расійскай Федэрацыі завалілі. І за межы той Федэрацыі выйшлі даўно. Украінцы на нашу смятану і масла падселі як алкаш на шклянку. А азіяцкія краіны ўвогуле не ўяўляюць жыцця без мудрага беларускага прыкладу надзвычай эфектыўнай эканамічнай і палітычнай мадэлі. Ёсць з каго прыклад браць.

Здавалася б, ужо як у раі павінна быць. Але нашыя слугі народа на гэтым не спыніліся і адчынілі нам светлы шлях у адзіную мытную прастору, якая і мусіла паставіць апошнюю кропку ў справе здабыцця шалёнага дабрабыту. І мы пайшлі ў тую прастору без межаў, і без правілаў, і ўвогуле без усяго. Пайшлі, пайшлі і хуценька дайшлі да доўгачаканага года беражлівасці.

І вось нарэшце гэты год, зноў жа па сцвярджэнню дзяржаўных прапагандыстаў, „будзе садзейнічаць вырашэнню задач удасканалення арганізацыі вытворчасці, павышэнню прадукцыйнасці працы, якасці прадукцыі і паслуг за кошт аптымізацыі расходаў, рацыянальнаму выкарыстанню рэсурсаў, выключэнню ўсялякіх неабгрунтаваных страт, укараненню новых тэхналогій, тэхнікі і спосабаў гаспадарання". А таксама выхаване ў кожнага беларуса пачуццё гаспадарлівасці, абудзіць стымуляванне эканоміі і беражлівасці.

Усё нібыта зноў правільна. Застаюцца незразумелымі толькі пару рэчаў. Ці патрэбнае цяпер нам будзе для дасягнення пастаўленых задач усё тое, чаго мы з такім поспехам дасягнулі за апошнія дваццаць год? І старыя савецкія эканамічныя сувязі, і адзіная мытная прастора з танным газам ды нафтай, і саюзная дзяржава, і СНД, і ўсё астатняе. І ці засталося яшчэ хоць што, што можна зберагаць?

**Віктар САЗОНАЎ**



# Лісты Хесу

Матка Хесу ўжо ў пасляшлюбную ноч адкінула свайго мужа такім вось прызнаннем: „Буду табе лаяльнай да канца жыцця. Ніколі табе не здраджу. У імя Айца, Сына і Духа! Ды не кахаю цябе і не пакахаю. Не змагу...". Дзякуючы такому абяцанню, якому была вернай, дазваляла сабе на нявінныя флірты з мужчынамі. А была яна жанчына прыгожая так, што замала слова, каб выказаць яе незямную красу. Яна сама не была цалкам свядомая гэтага. Толькі пасля нараджэння свайго першароднага і , як аказалася, адзінага сына, калі пасля родаў абследавала ў люстры першую маршчыну, зарысаваную быццам праз няўвагу на ілбе, зразумела горкую праўду, што безупыннае ў турботах мацярынства вынясе яе красу над паспалітую жарснасць у спосаб неабавязкова для яе справядлівы, ды больш за ўсё сумленны ў адносінах да мужчын, якія пад прагу прыгожага прадстаўляюць валоданне яго матэрыяльным, значыць, зношваючымся запалам. Таму надалей дазваляла захапляцца сабою. Не бачыла ў гэтым нічога шматзначнага. Нават тады, калі прымала залёты на вачах мужа. Была ж лаяльнай у адосінах да яго. Больш за ўсялякае сумненне, над брыдкія паказныя кляймаванні, ніколі не падумала аб здрадзе свайму мужу, які прыгнятаў яе маўклівай, поўнай шалу ў сцямнелых вачах зайздрасцю. Нават уміраючы, калі прынялa мужаву далонь, якая з цяжкасцю ўздымалася над мінулыя крыўды да яе далоні, надалей спаглядала ў Неба, дзе чакалі ўжо яе стройныя анёлы. Не адказала поціскам далоні на яго поціск. Была ўжо мёртвая. Тут на Зямлі была заўжды мёртвая. Ейная краса мела знайсці сваё здзяйсненне ў іншым месцы.

Хесу Пук'ята, запутаны ў зямныя справы, часта нязгодны з законам, адчуў сябе страшна параненым, калі маці пакінула яго для здзейсненай тугі. Падобна як бацька, які дзень пасля паховін жонкі выйшаў з хаты і зацёр па сабе любыя аўтабіяграфічныя сляды. Можна меркаваць, што цяга балючых падзей моцна адціснулася на будучым жыцці Хесу, бо, кінуты самому сабе, захутка ажаніўся і спарадзіў пяцёра дзяцей, якія з дасяпваннем патрабавалі ад яго штораз большай адданасці. Таму за прыкладам сваіх мексіканскіх землякоў прамільгнуў над межы нястачы і пасля шматлікіх перыпетый, перакідваны з горада ў горад кузінамі і знаёмцамі, на канец дабраўся ў Нью-Йорк, дзе царыць прынцып „не расказвай адкуль ты і хто ты; жыві так, быццам бы тут жыў ад узнікнення свету".

Ад маці Хесу ўзяў у спадчыну ўсе тыя фенаменальныя гены, якія рабілі з яго стройнага мужчыну, але ж істоту досыць эзатэрычную. Сваёй жонкі не кахаў, ды быў ёй верны. Аднак штораз больш дапякала яму самота. Пазнаёміліся мы на пабудове хмарачоса. Хутка дагаварыліся, што канструкцыя , якую ўздымаем, хоча сягнуць Неба. Таму наш штодзённы і небяспечны занятак здаваўся нам вартым старання. Ды пасля 10 гадзін гаравання, калі жаданае вяртанне дахаты абазначала замкнёнасць у клаўстрафобным кластары, адным са шматлікіх у жыллёвым вуллі, найманым нелегальным эмігрантам — такая штодзённасць станавілася незаслужанай і экстрэмнай.

Таму ў адзін пятнічны вечар рашылі мы развесяліцца ў кампаніі аматарак Хесу, пражываючых на Бронксе. Паколькі мы мелі ехаць з далёкага Брукліна, па дарозе да гарадскога метро ўступілі для дадання сабе весялосці ў першы з берагу паб на шкляначку віскі. Ды калі дапівалі мы пяты дрынк, аказалася, што гэта быў бардэль.

Усё гэтае нявіннае здарэнне зацёрлася б у нашай памяці, калі б не адна даўганогая бландзінка з васільковамі вачыма і без сумнення славянскага радаводу. Тое, што была гэта паспалітая прастытутка, аказалася пры апошнім напоі, які мы сабе заказалі, калі падсела да нас і ваяхдлівым шэптам абымшэлым плесню мінуланочнай хрыпаты, запрапанавала нам адназначныя паслугі ззаду шынка. Мы падзякавалі за запрашэнне, тым больш, што былі ўжо безграшавітымі. Таму з-за гэтага не паехалі мы ў Бронкс і хоцькі-няхоцькі вярнуліся ў свае норы. Толькі што Хесу, захоплены красой славянскай шлюхі, выбраўшы з банкамата немалую суму, вярнуўся да яе яшчэ ў той самы вечар і там у бардэлі, прытвараючымся шынком, на той сметніцы, дзе ўзгрувашчваецца галгофа чалавечых і звярыных цел, даў распяцца блакітнавокаму стварэнню.

Здаровага розуму, аднак, Хесу не страціў і хаця залатавалосай красуні аддаваў кожную вольную хвіліну, працы не занядбоўваў — мабыць таму, што шматгадовыя ашчаднасці прагуляў і толькі дзякуючы штотыднёвай зарплаце мог правадзіць з даўганогай шлюхай найшчасныя ўік-энды. За той час схуднеў, учарнеў і мабыць на крыжы жарсных уздымаў высах бы на трэску, калі б не яго жонка, крыклівая мухэр вагі тлустага агурка і жэстаў сервантэсавага ветрака. Яна, утурбаваная недахопам грашавых перадач з Амерыкі, прадзерлася ў яе праз мяжу і амаль з ходу, не зняміўшы прапітанай потам сукенкі ў сваёй сваячкі Мануэлі, якая не адмовілася рассакрэціць праўды ўкрыжавання Хесу, проста з яе дома на Бронксе падалася ў фірму мужа на Маспеч, дзе ўгаварыла ўсіх, што ён з'яўляецца наркатыкавым неплацельшчыкам, якога гоніць правасуддзе і мафійная вендэта, і наш шэф бездакладна паклікаў эміграцыйныя службы. А тыя справядліва выгналі і яе, і Хесу, на збітую морду ў Мексіку.

Не ведаю, ці Хесу там шчаслівы. Не адказвае на мае лісты. Нічога. Штотыдзень шлю яму чарговы з верай, што гісторыя складваецца з анекдатычных аповедаў і калі нават яны фіктыўныя, усё ж ствараюць значную яе частку. Калі не цэласць!

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Сродак для іншых мэт



Культура знаходзіцца на задворках стратэгіі, асабліва ў малых мясцовасцях. Сярод прадстаўнікоў мясцовай улады надалей царыць мысленне, нашто даваць грошы на штосьці нематэрыяльнае, калі можна на дарогі, якія відаць простым вокам — між іншым да такіх высноў дайшлі прадстаўнікі Фонду „Wiedza Lokalna", якія нядаўна падвялі даследаванні на тэму як культура спрычыняецца да развіцця паасобных гмін і ці супрацоўніцтва з установамі, якія дзейнічаюць у абшары культуры, з самаўрадамі добра служыць яе развіццю. Гэтыя даследаванні (я тут у апошні час пісаў аб іншых, таксама датычных да развіцця культуры), якія працягваліся некалькі месяцаў і былі праведзены па даручэнню Мінстэрства культуры і нацыянальнай спадчыны, і ахапілі Падляшскае і Вармінска-Мазурскае ваяводствы. На Падляшшы даследчыкі Фонду правялі пяцьдзесят паглыбленых апытанняў з рознымі „акцёрамі", дзейнічаючымі ў абшары культуры такімі як прадстаўнікі тэрытарыяльнага самаўрада, установы культуры, прадпрыемствы, дзейнічаючыя ў гэтай галіне, няўрадавыя арганізацыі ды сярод саміх артыстаў, а таксама правялі ў гэтых асяроддзях каля шасціста апытанняў. Высновы — як заявілі прадстаўнікі Фонду ў час прэс-канферэнцыі — маюць паказаць механізмы ўзмацняння г.зв. высокай грамадскай культуры ды ўзмацнення і пашырання сацыяльных сетак. Маюць быць яны пачаткам дэбаты (чарговай?) на тэму механізмаў функцыянавання культуры.

На думку адказчыкаў, найважнейшымі элементамі ў спраўным дзеянні на абшары культуры з'яўляюцца па чарзе: чалавечы калектыў (адказала так больш за трэць апытаных), паспяховасць у здабыванні фінансавых сродкаў (таксама больш за адну трэць), арганізацыйныя здольнасці (менш чым адна трэць), а далей па чарзе: кампетэнцыі, прызнанне, удзел у рашэннях, шырокая сетка знаёмстваў, лагістычныя аб'екты і веданне законаў.

— Задзівіла нас тое, што адказчыкі пералічвалі як адну з найважнейшых шырокую сетку знаёмстваў, значыцца, яны лічаць, што лягчэй дзейнічаць у культуры, калі маюцца знаёмыя, — сказалі журналістам члены „Wiedzy Lokalnej".

У іншым з пунктаў даследаванняў датычным удзелу грамадства ў фармаванні публічных палітык у абшары культуры аказалася, што на розным узроўні самаўрада на Падляшшы стратэгічныя дакументы і юрыдычныя акты ў галіне культуры кансультуюцца грамадска толькі ў няцэлых 13 працэнтах, а дарадчыцкія калектывы існуюць у няпоўных 40 працэнтах выпадкаў.

— Публічная ўлада перакідвае адказнасць пры вырашэннях на падпарадкаваныя ім падраздзяленні, каб гэта яны ініцыявалі грамадскі дыялог, не якім гэтым падраздзяленням таксама асабліва не залежыць, — дайшлі да выводу члены Фонду. — Самі патэнцыяльныя бенефіцыянты таксама ўцякаюць ад дыскусіі аб стратэгіі ад страху, што хтосьці ім адбяра датацыі, хаця гэта кампетэнтныя асобы.

Аказалася, што найчасцей кансультуюцца дакументы з галіны культуры на гмінным узроўні (49,5%), затым павятовым (26,6%), а на канцы — на ваяводскім (14,9%). На жаль, прадстаўнікі Фонду не даследавалі ці і ў якім працэнце высновы з кансультацыі паасобных дакументаў прымаюцца ўладамі пад увагу. Цікавыя высновы выплываюць таксама, калі гаворка аб падтрымцы паасобных культурных мерапрыемстваў. У 32 працэнтах адбываецца гэта ў самаўрадах, абмінаючы адкрыты конкурс. Члены Фонду звярнулі таксама ўвагу:

— Разважаем, ці культура гэта дабро незалежнае, само ў сабе, ці таксама сродак для рэалізацыі іншых мэт, грамадска важных. Найбольш адказчыкаў меркавала, што гэта сродак для рэалізацыі іншых мэт. Культура часта трактуецца ў адносінах да іншых галін гаспадаркі, такіх як турызм, часта толькі ў адносінах да прапаганды.

Гледзячы на вынікі даследаванняў Фонду „Wiedza Lokalna", у чарговы раз наводзіцца думка: для значнай часткі падляшскіх самаўрадаў культура надалей знаходзіцца на абочыне іхняга бачання рэчаіснасці.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Ушанавалі памяць свяціцеля Мікалая ЦУДАТВОРЦА

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

У Комплексе школ у Чыжах святкуюць так, як вернікі праваслаўных прыходаў у Чыжоўскай гміне. У пачатку студзеня ладзяць «Куццю», «Шчодры вечар» адзначаюць паводле юліянскага календара, а «Масленіцу» арганізуюць перад Вялікім постам, згодна з праваслаўнай традыцыяй. Святкаванне ў гонар любімага ў праваслаўным свеце свяціцеля Мікалая Цудатворца ладзіцца для ўсіх вучняў Падставовай школы ў Чыжах таксама 19 снежня, а не 6 снежня, як святкуе амаль уся Польшча. Праўда, у школе ў Чыжах у час класавых сустрэч сталі таксама ладзіць «Мікалайкі» згодна з грыгарыянскім календаром, але гэтыя імпрэзы не набываюць агульнашкольнага характару.



Дэкламацыя па-беларуску побач нарысаванай вучнямі іконы свяціцеля Мікалая



У час прадстаўлення вучні пазнаёміліся з дзейнасцю свяціцеля Мікалая Цудатворца

— Сённяшняе святкаванне ў гонар святога Мікалая прадвяшчае, што хутка будзем святкаваць Божае Нараджэнне, якога вы так нецярпліва чакаеце. Атрымаеце тады падарункі, але смакоцце згодна з традыцыяй раздаецца таксама ў сённяшні дзень, — заявіў, звяртаючыся да сабраных дырэктар школы ў Чыжах Міраслаў Пяткевіч. Прывітаў ён вучняў, бацькоў і настаўнікаў, якія 19 снежня мінулага года сабраліся ў гімнастычнай зале на святкаванне ў гонар свяціцеля Мікалая Цудатворца. Распачалося яно з прадстаўлення, у час якога вучні расказвалі пра жыццё Мікалая Цудатворца і паказвалі, як ён патаемна дапамагаў патрабуючым людзям. Будучы епіскапам, жыў скромна, з вялікай пакорай і згодна з хрысціянскім навучаннем. Дайшоў да святасці і зараз дапамагае многім людзям, якія моляцца да яго за хадайніцтва ў Бога. Дзеткам цікава было паглядзець на хлопца, пераапранутага за свяціцеля Мікалая, і больш даведацца пра жыццё і дзейнасць гэтага вельмі паважанага, таксама ў нас на Беласточчыне, святога. Вучні мусілі таксама распазнаць на рысунках праўдзівага святога Мікалая і дэмаскаваць дзядулю з вялікім жыватом, якога паўсюдна сталі называць святым Мікалаем, і зрабілі гэта правільна.

— Мы не першы раз расказваем у школе праўдзівую гісторыю аб святым Мікалаі. Спачатку дзеткі паказвалі на тоўстага Мікалая з доўгай барадой пад уздзеяннем тэлеперадач, але зараз яны ведаюць, што свяціцель Мікалай не быў тоўстай асобай. Сёння правільна паказалі на ікону святога Мікалая, якую вучні самі нарысавалі, рыхтуючы прадстаўленне. У яго адукацыйны і выхаваўчы характар, бо дзеткі знаёмяцца з жыццём свяціцеля Мікалая і вучацца дапамагаць людзям бедным і патрабуючым падтрымкі, — сказала настаўніца Божага закону Магдалена Заброцкая.

Протаіерэй Марк Якімюк, вікарны святар Чыжоўскага прыхода яшчэ больш крытычна выказваўся аб паказванні ў сродках масавай інфармацыі Мікалая ў выглядзе тоўстага дзядулі, які ездзіць на запрэжаных у паўночныя алені санях.

— Свяціцель Мікалай гэта святы, якога мы ўсе любім і вельмі паважаем. У школе мы знаёмім вучняў са святым Мікалаем з крыжам і жазлом у руках і мітрай на галаве як з гістарычнай постаццю, якая дапамагала патрабуючым людзям. Жывучы аскетычна, дайшоў ён да святасці. У масмедыях гэтая постаць паказваецца зусім інакш, з кійком і званочкам у руках і шапкай з пупам на галаве, а шчуплы епіскап Мікалай паказваецца як тоўсты дзядуля, — гаварыў протаіерэй Марк Якімюк.

У час святкавання вучаніца дэкламавала па-беларуску верш пра Дзеда Мароза, які ў Беларусі, Украіне, ці ў Расіі надалей з'яўляецца тым старэчай, які прыносіць падарункі дзеткам на Новы год. У час майго дзяцінства па вёсках Гайнаўшчыны падарункі пад ёлку на першы дзень святкавання Нараджэння Гасподняга падкладваў таксама Дзед Мароз, хаця я чуў па тэлебачанні, што ў палякаў робіць гэта Мікалай. У майго дзядулі было многа хросных дзетак і ён даваў ім *валачэбна* на Вялікдзень, бо ў мінулым у нас не было прынята даваць падарункі хроснікам у час Раства Хрыстовага. Калі бацькі рашаліся даваць ласункі сваім дзеткам (маю на ўвазе тых, што нарадзіліся яшчэ перад Другой сусветнай вайной) зімой, то падкладвалі іх ноччу пад падушку або ў боты, перад днём святкавання ў гонар свяціцеля Мікалая. Рабілі гэта згодна з традыцыяй, што падтрымлівалася ў нас здаўна і аднаўляецца ў Комплексе школ у Чыжах.

— Я называюся Мікола і мне святкаванне ў гонар святога Мікалая вельмі важнае. Мы рады, калі атрымліваем падарункі ад Мікалая. Я нават пісаў пісьмы да яго з просьбамі, але цяпер ужо гэтага не раблю. Святкаванне ў школе *файнае* і мы рады, што яно арганізуецца, — сказаў вучань чыжоўскай школы Мікола Баніфацюк.

Вучаніцы Юсцінія Андраюк, Іаанна Андраюк, Гося Тапалеўская і Юсцінія Баўтручук таксама пахвалілі школьнае святкаванне ў гонар свяціцеля Мікалая як адукацыйнае мерапрыемства і добрую нагоду для гульняў і радасці.

— Важна, што бацькі нашых дзетак дапамагаюць арганізаваць сённяшняе святкаванне, рыхтуючы пачастунак, — заявіў дырэктар Міраслаў Пяткевіч.

Святкаванне ладзілася пад наглядам настаўніц Крысцініі Койлы і Анны Лаеўскай, якія займаюцца з дзеткамі ў школьнай святліцы. Разам з вучнямі падрыхтавалі яны выступленні з песнямі, вершыкамі і разнароднымі гульні, у якіх ахвотна прымалі ўдзел дашкольнікі і дзеткі з падставовай школы. Вучні звярталіся да сваіх сяброў з пажаданнямі і радасна праводзілі час. Цікавай атрымалася дэкламацыя па-беларуску і прыгожа прагучалі беларускія песні і нашыя калядкі. Важным момантам святкавання быў прыход шчуплага і высокага Мікалая з падарункамі, якія раздаваў сабраным, што выконвалі яго просьбы. Цукеркі атрымалі ўсе сабраныя ў спартыўнай зале. За выступамі і гульнямі назіралі настаўнікі, бацькі вучняў і запрошаныя госці, сярод якіх былі кіраўнік Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі ў Чыжах Яўгенія Кандрацюк і гмінны бібліятэкар-асістэнт Іаанна Бялавежац. Асабліва бацькам цікава было паглядзець выступы сваіх дзетак, а вучням цікава было паказаць свае ўмеласці перад роднымі. Святкаванне закончылася пачастункам.

— Святкаванне ў гонар святога Мікалая мы праводзім у школе не першы раз. Нашыя вучні ўжо чакаюць мерапрыемства, самі прапануюць вершыкі і песні, з якімі выступяць перад сябрамі. Мы рады таксама, што памагаюць нам спонсары і бацькі, — заявіла галоўны арганізатар мерапрыемства, настаўніца Крысцінія Койла, якая штодзень займаецца з дзеткамі ў святліцы.

— Я першы раз уключылася ў святкаванне, бо раней не працавала ў святліцы і думаю, што яно прайшло паспяхова. Цяпер па дамах нашых вучняў рэдка даюцца падарункі ў дзень святога Мікалая і таму сённяшнія падарункі і пачастунак павінны асабліва радаваць нашых дзетак, — гаварыла настаўніца беларускай мовы і заадно апякун у святліцы Анна Лаеўская.

Дырэктар Міраслаў Пяткевіч паінфармаваў, што ў час канікул было разбудаванае і адрамантаванае прадшкольнае аддзяленне і ва ўсіх класавых кабінетах памянялі шафы і мэблевыя сцэнкі. У бліжэйшай будучыні прадбачваецца рамонт ацяпляльнага абсталявання і ўстаноўка печкі, бо зараз гарачая вада пастаўляецца ў школу аж но з гміннай кацельні. Самай важнай інфармацыяй, якую я ўчуў ад чыжоўскіх настаўнікаў, было паведамленне, што надалей усе вучні Комплексу школ у Чыжах ходзяць на заняткі беларускай мовы. Гэта дазваляе паспяхова вырашаць фінансавыя пытанні школы, дзякуючы дадатковым сродкам, якія выдзяляюцца на кожную асобу, што вучыцца мове нацыянальных меншасцей.

— Нашыя вучні рады былі, што спаткаліся з беларускай паэтэсай Мірай Лукшай і ездзілі на экскурсіі ў Цэнтр адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах, дзе знаёміліся з беларускімі народнымі казкамі і вучыліся народнаму рукадзеллю, вышыванню крыжыкам і выконвалі кветкі з паперы, чаму і я вельмі ахвотна вучылася, бо раней не ведала гэтага занятку, — сказала настаўніца беларускай мовы Анна Лаеўская і дадала, што вучні чыжоўскай школы ахвотна вучацца роднай беларускай мове, прымаюць удзел у прадметных конкурсах па беларускай мове, дэкламатарскіх конкурсах «Роднае слова» і «Беларуская гавэнда», адкуль частка з іх вяртаецца з пераможнымі месцамі і ўзнагародамі. У гэтым школьным годзе некаторыя вучні былі ўжо кваліфікаваны на раённыя элімінацыі прадметнага конкурсу па беларускай мове.

## Сенакос

Даўней так бывала, што калі наступала пара сенакосаў, тады ўся сям'я выходзіла на сенажаць, бо кожныя рукі там патрэбныя былі. Найперш ішлі туды мужыкі, а на другі дзень рэшта сям'і. Сонейка яшчэ не паказалася, але там, дзе яно мае на свет паглядзець, неба ўжо ружавее. І мужык ужо на нагах. А па вёсцы рэха нясецца: стук! стук! стук! — гэта сяляне косы клеплюць, рыхтуюцца да касьбы. І зайсці на сенажаць пакуль яшчэ сонейка не ўстала, каб раса яшчэ была на траве. Бо і кажуць: касі каса пакуль раса, раса далой — каса дамой.

Калі сонейка высока ўжо на небе, тады такое жарышча, што касы не пацягнуць. Толькі потам мужык абліваецца і сілы траціць: з ілба цячэ, сонца пячэ, касу кідай і ў цянёк уцякай. А спякоты не такія былі як цяпер. Калі выйдзе, казалі, на сонечную пагоду, то два і больш тыдняў пагода трымае. Такое надвор'е мужыку спрыяльнае. Як мурашкі людзі стараюцца, каб як найбольш сена высушыць і ў клуні звезці. А гэта патрабавала мноства працы. Таму людзі не шкадавалі сіл, толькі далонню пот з ілба змахнеш і далей сваё робіш.

Найперш трэба было пакосы за касцом разбіць. На другі дзень, калі скошаная трава крыху падсохла, трэба было яе перакінуць на другі бок. І ўсе цешацца, што з неба яшчэ не лье. А калі ўжо сена высахне як след, тады мой дзедка вусы падкруціць і так скажа:

— Дзеткі, настала пара сена ў капіцы складаць.

А я яму перабіваю:

— Дзедка, а можа дадому сена забраць?

— Замаўчы! Ты яшчэ малады, нічога не ведаеш. Што табе сказалі, тое і рабі! Не пара табе старэйшых вучыць, бо мы самі ведаем што трэба рабіць.

І так за граблі, і грабі-грабі пакуль вочы на лоб не вылезуць. У румянкі так сена трэба было скласці, каб яны акуратныя і прыгожыя былі. І капіцу такую злажыць, каб яна выгляд мела. Граблямі яе складалі, кругом абграбалі, абскубалі, папраўлялі. І ў канцы дзедка казаў:

— Ну, добра. Можаце далей складаць, толькі так, каб адна насупраць другой была.

Неаднойчы паціху думаў я так сабе: „Вось якія тыя старэйшыя людзі неразумнымі мне здаюцца. Быццам тая капіца адна з другою век ляжаць мелі. А назаўтра ж яе растрасаць і далей сушыць трэба". Трэба было сушыць сена датуль, пакуль яго ў руках папалам не пераломвалася. Тады яно лічылася сухім і ў клуню можна яго было вазіць.

А звозілі сена конікам і жалезным возікам. А яшчэ раней, успаміналі, вазілі сена драўлянымі вазамі, у якія запрагалі валоў — такая была даўней тэхніка! Пры маёй памяці тэхніка наперад пайшла.

Сена сушылі амаль два тыдні. На гэты час жанчыны рыхтавалі смачнейшую ежу, каб дагадзіць касцам і іх памочнікам ды сілы іх падтрымаць. Выпякалі пірагі, яйкі варылі, з салянак вымалі засоленую свініну — ну, усё найлепшае, што на той час у гаспадарцы было.

Памятаю такі выпадак. Прыйшоў да бацькі ягоны кум, каб дапамагчы касіць. Касу, відаць, нікудышнюю ён меў. Пакасілі крыху, пакасілі. Тады паснедалі ці паабедалі — дакладна не помню ўжо. І дзе кум касіў, там трава стаіць. Кум і кажа бацьку:

— Ведаеш, куманёк, мала даў сала, таму і трава ўстала. Ну, нічога, на другі раз я папраўлюся. Вазьму лепшую касу, раней прыйду і сваё папраўлю.

— Не, ты пакінь гэта ў спакоі, якась сам дакашу, — кажа бацька, думаючы як кума хутчэй пазбыцца.

А куму і казаць гэтага не трэба было. Ён касу на плячо і толькі яго і бачылі.

**Грыша МАРОЗ**

# За князем Уладзімірам

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

Людзі гавораць, што ў жыцці ўсяляк бывае: раз жук мычыць, раз карова лятае. А мне прытрапілася прастуда-пакута за нейкія грахі, у выніку якой не ўдалося мне звалачыцца ў чарговую вандроўку па дарогах ці сцежках Беласточчыны. Заміж таго звалачыўся я на папяровыя і вітруальныя старонкі, кранаючыя нашага мінулага.



Князь Уладзімір устанавіў паганскіх бажкоў на ўзгорку ў Кіеве ў 980 г. (мініяцюра з Радзівілаўскага летапісу)

Можа хто сказаць, што гэта работа для гісторыкаў; і так яно ў сапраўднасці павінна быць. Калісь, аднак, гаварылася, што кожны салдат носіць у заплечніку маршалкоўскую булаву, а ў наш час гэтая мара становіцца быллю. Вось, для прыкладу, у нашай Найяснейшай народнае аэрадынамічнае апалчэнне вырашае складаныя прычыны славутай авіякатастрофы каля Смаленска, патрабуючы не так ад спецыялістаў, якіх яно звычайна ігнаруе, але ад урада амаль адміністрацыйнага назначэння яе прычын паводле *vox populi*. Чаму ж бы і мне не пакарыстацца канстытуцыйным правам і не падаць свайго голасу на адну-аднюсенькую тэму?..

Вось хачу крыху памеркаваць пра прачытанае мною. Усеволад Ігнатоўскі ў „Кароткім нарысе гісторыі Беларусі" быў пісаў пра магутнасць Полацкага княства пад князем Рагвалодам, што сыны кіеўскага князя Святаслава „Яраполк і Уладзімер шукалі сабе дапамогі з боку Рагвалода. Дзеля гэтай мэты абодва браты дамагаліся рукі Рагвалодавай Рагнеды, каб палітычны зьвязак зацьвердзіць сваяцтвам. Маладыя князі заслалі сватоў да полацкай княжны. Летапіс гаворыць, што Рагнеда, даведаўшыся, што Уладзімер быў сынам Сьвятаслава і рабыні, не захацела быць жаною рабыніча і з пагардай адказала так: „не хочу разуті рабыніча, а за Ярополка іду". Калі Уладзімеру перадалі адказ Рагнеды, ён у 980 годзе пашоў паходам на Полацк, разьбіў полацкае войска, зруйнаваў горад, забіў Рагвалода і яго двух сыноў, а Рагнеду забраў у Кіеў і *прымусіў* быць сваёю жонкаю. Ад яе ён меў чатырох сыноў і дзьве дачкі, старшы з сыноў быў Ізяслаў. Паданьне гаворыць аб тым, што Рагнеда не магла забыць сваёй крыўды і хацела раз забіць Уладзімера. Ён хапіўся за меч, каб засячы гордую палачанку, але маленькі Ізяслаў стаў таксама з мечам на заслону сваёй маткі. Калі мы паміж радкоў перачытаем гэтае паданьне, то пабачым, што для кіеўскага князя было ня зусім бясьпечна трымаць каля сябе нават і жонку, калі яна была шчыраю палачанкаю".

Не толькі Рагнеда была прымушана быць Уладзіміравай жонкай. „Аповесць мінулых гадоў" падае: „Бе же Володимиръ побеженъ похотью женьскою. Быша ему водимыя: Рогънедь, юже посади на Лыбеди, идеже есть ныне селце Передславино, от нея же роди 4 сыны: Изеслава, Мьстислава, Ярослава, Всеволода, и две дщери; от грекини — Святополка; от чехыни — Вышеслава; а от другия — Святослава, а от болъгарыни — Бориса и Глеба. И наложьниць у него 300 въ Вышегороде, 300 в Белегороде, а 200 на Берестовемъ в сельци, еже зовут и ныне Берестовое. И бе несытъ блуда, и приводя к себе мужьскыя жены и девици растляя. Бе бо женолюбець, яко и Соломонъ: бе бо у Соломона, рече, женъ 700, а наложьниць 300".

Не адным толькі гэтым юрам праславіўся кіеўскі князь Уладзімір, больш — ён прыняў хрысціянства, аднак не сам, але *прымусіў* прыняць яго і ўсіх сваіх падданых: „Снидоша же ся креститися многое множество людей мужеска полу и женска, от мала и до велика, и с сущими млеко младенцы. И вси людие внидоша в реку, и стояху овии до шии, а друзии до персей, младенцов же на руках в воде держаще, совершеннии же бродяху. Святителие же и презвитеры, стояще на брегу, молитвы глаголаху святаго крещения и елеом святым помазаху их; и тако крестишася все множество народа русскаго во имя Отца и Сына и Святаго Духа; и священным миром помазающе их, и словеса утешения глаголавше к ним и благословивше, отпустиша я".

Уладзімір прыняў хрысціянства пасля дакладнай разведкі ўсіх альтэрнатыўных язычніцтву прапаноў: „Приидоша болгаре веры бохъмичи, глаголюще, яко «Ты князь еси мудръ и смысленъ и не веси закона; да веруй въ законъ наш и поклонися Бохъмиту (Магамету)». Рече Володимиръ: «Кака есть вера ваша?» Они же реша: «Веруемъ Богу, а Бохъмитъ ны учить, глаголя: обрезати уды тайныя, а свинины не ести, а вина не пити, и по смерти съ женами похоть творити блудную. Дасть Бохъмить комуждо по семидесятъ женъ красенъ, и изберетъ едину красну, и всехъ красоту възложит на едину, и та будеть ему жена. Зде же, рече, достоить блудъ творити всякый. На семъ же свете аще будет кто убогъ, то и тамо, аще ли богатъ есть зде, то и тамо». И ина многа лесть, еяже нелзе писати срама ради. Володимиръ же слушаше ихъ, бе бо самъ любяше жены и блужение многое, и послушаше сладъко, Но се бе ему не любо: обрезание удовъ и о неядении свиныхъ мясъ, а о питьи отинудь рекъ: «Руси веселье питье, не можемъ безъ того быти». По семъ же придоша немци от Рима, глаголюще, яко «Придохомъ послани от папежа». И ркоша ему: «Реклъ ти папежь: „Земля твоя яко земля наша, а вера ваша не акы вера наша, вера бо наша светъ есть, кланяемъся Богу, иже створи небо и землю, и звезды, и месяць и всяко дыхание, а бози ваши — древо суть"». Володимиръ же рече: «Кака есть заповедь ваша?» Они же реша: «Пощение по силе. Аще кто пьеть или есть, все въ славу Божию, рече учитель нашъ Павелъ». Рече же Володимиръ немцомъ: «Идете опять, яко от-

працяг ☞11



Дзень хрышчэння Русі

Сабраным цікава было паслухаць даклад Генадзя Семенчука (злева) і выступленне Дарафея Фіёніка



Музей малой айчыны ў Студзіводах многа ўвагі адводзіць збіранню, запісванню і прапагандаванню фальклору, перш за ўсё з Падляшша і Палесся. Дзейнічае таксама ў напрамку захоўвання народных рамёстваў, да якіх у час майстар-класаў прывучае дзетак з Бельска-Падляшскага і наваколля. Надалей многа ўвагі адводзіць збіранню гістарычных матэрыялаў датычных Бельска-Падляшскага і наваколля. Канешне, галоўную працу выконвае тут старшыня музейнага

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Каб памятаць аб сваёй мінуўшчыне

аб'яднання Дарафей Фіёнік, але дапамагаюць яму гісторык з Гродна Генадзь Семянчук, Людміла Антыховіч-Валынец, якая да 1945 года жыла ў Бельску-Падляшскім, а зараз пражывае ў вёсцы Русіно ў Рэспубліцы Беларусь, Арсеній Артысевіч з Бельска і іншыя асобы, якія матэрыялы друкуюць у перыядычным выданні «Бельскі гостінэць» і іншых часопісах. Мінулае Бельска-Падляшскага — багатае, таму яго даследаванне цікавае, але адначасна складанае, бо матэрыялы раскінуты па архівах Беластока, Гродна, Вільні, Пецярбурга, Масквы і іншых гарадоў. Расказваў аб гэтым прафесар Генадзь Семянчук у час сустрэчы, наладжанай 15 снежня мінулага года ў мяшчанскім доме ў Студзіводах, які ўваходзіць у састаў Музея малой айчыны. Прынялі ў ёй удзел зацікаўленыя мінулым свайго горада бяльшчане, сярод якіх былі Арсеній Артысевіч, дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук і журналісты.

— Мы павінны памятаць аб сваім мінулым, збіраць гістарычныя матэрыялы аб сваіх мясцовасцях і сваіх родах. Апошнім часам дазваляюць фатаграфаваць матэрыялы ў польскіх архівах. Калі скажаце, што збіраеце матэрыялы аб сваёй малой айчыне, вам дадуць доступ да архіўных дакументаў. Пры нагодзе будзеце маглі зрабіць копіі дакументаў аб продках і саставіць багатыя генеалагічныя сувязі. Захоўваюцца матэрыялы нават аб звычайных сялянах, толькі трэба навучыцца іх шукаць, — заахвочваў прафесар Генадзь Семянчук удзельнікаў спаткання працаваць на архіўных матэрыялах, якіх частка знаходзіцца ў праваслаўных і каталіцкіх прыходах горада і наваколля.

— Я люблю Бельск з-за таго, што тут лета ёсць летам, а зіма зімой. Гэты горад падобны да майго роднага Ваўкавыска. Паміж згаданымі мясцовасцямі прыблізна 60-кіламетровая адлегласць. Я — гісторык і археолаг, але прыйшлося мне таксама працаваць як этнолаг, даследуючы мінулае Бельска, — заявіў Генадзь Семянчук і распавёў аб працы, якую вядзе разам са студэнтамі Ягелонскага універсітэта ў Кракаве, дзе ён працуе выкладчыкам (выкладае ён таксама і ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы ў Гродне).

— Калі мы са студэнтамі ў час летніх заняткаў у Бельску распытвалі мясцовых жыхароў, што ведаюць пра яўрэяў, якія ў пэўны момант састаўлялі нават большасць жыхароў горада, то бяльшчане мала ведалі аб іх. Звярталі затое ўвагу на Дарафея Фіёніка, як тую асобу, што даследуе жыццё яўрэяў у Бельску і паставіў памятную дошку ў іх гонар. Заўважылі мы, што ў бяльшчан ёсць таксама праблемы, каб саставіць радаслоўе радавітых палякаў з Бельска ў больш аддалеглае мінулае, — расказваў сабраным Генадзь Семянчук. — У час чарговых канікулаў мы даследавалі жыццё бельскіх рамеснікаў з вуліцы Дубічы, якія не былі яўрэямі, як найчасцей бывала ў падобных гарадах, але былі праваслаўнымі вернікамі і ў свой час уніятамі, але тут было больш складана сабраць больш інфармацый. Нашым студэнтам вельмі падабаўся фестываль «Олень по бору ходіт». Некаторыя з іх зацікавіліся фалькларам і сталі ў сябе збіраць фальклорныя матэрыялы, каля Жыўца, ці Пярэмышля. На бліжэйшыя канікулы мы запланавалі працу ў бельскіх парафіяльных архівах, каб супаставіць звесткі ў метрыках з інфармацыямі, якія знаходзяцца ў матэрыялах, якія я сабраў у гродзенскім архіве і перадаў Дарафею Фіёніку.

Прафесар Генадзь Семянчук перадаў у музей у Студзіводах спісак сяліб жыхароў Бельска-Падляшскага з 1914 года, копію карты Бельска з 1910 года, спісак салдат вайсковай часці ў Бельску-Падляшскім з 1896 года і матэрыялы пра Бельскі кааператыў спажыўцоў «Сполэм» з 1907-1913 гадоў.

— У архіве ў Гродне можна знайсці многа матэрыялаў наконт Бельска-Падляшскага, пачынаючы з 1795 года, якія раней былі засакрэчаны, але два гады таму сталі яны даступнымі. Я і пачаў з гэтага часу больш працаваць у Гродне і шукаць архіўныя матэрыялы пра Бельск. Аднак у нас, на жаль, у вышэйшых установах мала даследуюць памежныя тэрыторыі Беларусі і таму складана хутка вывучыць мінулае Бельска, — сказаў прафесар Семянчук.

На падставе сабраных ім матэрыялаў можна даведацца, што вялікія змены адбыліся ў Бельску ў другой палове XIX і пачатку XX ст. Горад пераўтвараўся тады з драўлянага з нямошчанымі вуліцамі, у горад з мураванымі дамамі і брукаванымі дарогамі.

— Прыйшлося мне займацца сацыятапаграфіяй, маючы на ўвазе спісак з 1914 года. На падставе аналізу Бельска гэтага перыяду можна акрэсліць, якія людзі былі тады ў горадзе, дзе і як яны жылі. Марыцца стварыць віртуальны архіў бельскіх радаслоўяў і змясціць яго ў інтэрнэце, як энцыклапедыю Бельска, — прапанаваў Генадзь Семянчук.

Даследчык распавёў пра салдат, якія выводзіліся з розных месц Расійскай імперыі і прыйшлося ім служыць у Бельску-Падляшскім. Хаця за зносіны з жанчынамі салдат ссылалі ў глыб Расіі і кожныя 4-5 гадоў пераводзілі іх з адной вайсковай часці ў іншую, магчыма што нараджаліся дзеці ў Бельску-Падляшскім ад салдат і можа іх нашчадкі пражываюць у Бельску па сённяшні дзень.

Частка спаткання тычылася рыхтаванай да выдання кніжкі. Дарафей Фіёнік распавёў аб канчатковай рабоце над выданнем пра род Антыховічаў з Бельска-Падляшскага. Прамоцыя кніжкі мае адбыцца ў канцы студзеня або ў лютым гэтага года. Большасць матэрыялаў для кніжкі сабрала Людміла Антыховіч-Валынец з вёскі Русіно, каля Баранавіч, якая часта наведвала свой родны горад Бельск.

— Гэта будзе першая кніжка пра мяшчанскі бельскі род. У ёй будуць апісаны бельскі род Антыховічаў, пачынаючы ад Сільвестра Антыховіча. Людміла Антыховіч-Валынец збірала матэрыялы ажно 30 гадоў і заразіла сваёй работай некаторых бяльшчан. Арсеній Артысевіч з Бельска прадставіць у новым выданні радаслоўе, каля паўтары тысячы нашчадкаў Антыховічаў. У кніжцы мы карысталіся вялікім архівам роду Антыховічаў, які атрымалі ад Паўла Чарвацкага, — расказваў Дарафей Фіёнік.

У час спаткання з дапамогай сучаснай тэхнікі прэзентаваліся цікавыя здымкі з кніжкі пра род Антыховічаў. У перыядычным выданні «Бельскі гостінэць» будуць друкавацца гістарычныя матэрыялы аб Бельску-Падляшскім і наваколлі, перададзеныя ў Студзіводскі музей Генадзем Семенчуком.

## Куцця ў святліцы — дванаццаты раз



Вечарам 28 снежня 2012 года ў святліцы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) загадчыца клуба Галена-Марыёля Рэент і старшыня Таварыства „Ятрышнік" Альжбета Кунцэвіч пры дапамозе Вольгі Максімюк і Аліны Барташук сарганізавалі Куццю. Мерапрыемства адбылося ўжо дванаццаты раз. У ім удзельнічалі настаяцель Стараляўкоўскай праваслаўнай парафіі а. Леанід Янкоўскі і царкоўны хор.

На сцэне красавалася прыгожая ёлка і тут жа на сене паклалі ікону з выявай Багародзіцы з Дзіцяткам на руках. Сталы заслалі абрусамі, запалілі свечкі і паставілі 12 традыцыйных посных страў. За імі селі сем'і з дзяцьмі, а таксама адзінокія асобы з Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Лешукоў, Міхнаўкі, Падляўкова, Ахрымоў і Сушчага Барка. Есці пачалі ад куцці з макам. Пакаштаваць было шмат чаго, у тым ліку і вельмі смачнай рыбы. Крыху пераеўшы ўсе прысутныя спявалі калядкі „Радуйцеся ўсе людзі", „Спі, Ісусе, спі", „Ражджаство Хрыстова", „Ціхая ноч над Палесцінай".



Вячэра працягвалася дзве гадзіны. Папльылі ўспаміны як калісь раней рыхтавалі куццю і якія стравы абавязкова мелі быць на стале ў той вечар напярэдадні Каляд. Уладыслаў Грыка з Сушчага Барка прывёз на супольную Куццю хатнюю жывёлу — прыгожае ягня. Як жа дзеці да яго гарнуліся!

У часе вячэры прадэманстравалі фільм „Жніво 2012 года ў Новым Ляўкове". На Куццю ў святліцы прыйшло і прыехала пяцьдзесят чалавек.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Паклапаціцеся пра сваё здароўе

У палове снежня фірма FADO з Гдыні праводзіла ў Гайнаўцы і Кляшчэлях мамаграфічнае абследаванне жанчын. І хоць паслугі рабіліся бясплатна (плаціў Нацыянальны фонд аховы здароўя), узровень зацікаўлення аказаўся незадавальняючым. У Кляшчэлях, напрыклад, паслугай пакарысталася адно 32 асобы, хаця год раней абследавалася 95 жанчын. Надалей шмат жанчын на Гайнаўшчыне неакуратна ставіцца да праблемы абследавання. Варта памятаць, што найбольш схільнымі да захворвання ракам малочнай залозы з'яўляюцца жанчыны ва ўзросце 50-69 гадоў. Ранейшае выяўленне хваробы дазваляе на амаль стопрацэнтнае яе вылячэнне. Варта затым паклапаціцца пра сваё здароўе.

**(ус)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Мы хадзілі з каляровай гвяздой!



20 снежня 2012 года ў Комплексе школ у Нараўцы паасобныя класы падрыхтавалі Куццю. У гэты дзень моладзь разам са сваімі выхавацелямі наладзіла багатыя сталы, пры якіх прыемна і міла правялі час.

Кожны вучань прынёс нешта з хаты. Гэта былі традыцыйныя святочныя стравы. Былі сена і белы абрус, без якіх сустрэча не магла б адбыцца. Затым мы ўпрыгожылі клас, які ў гэты дзень выглядаў казачна. Святло лямпачак на ёлцы прыгожа адбівалася ў каляровых шарах і стварала незабыўны настрой. На панадворку было бела і холадна, а пах свежай елкі і смакоццяў прыпамінаў нам сапраўдную сямейную вячэру. Кожны клас гэта ж малая сям'я.

Як кажа традыцыя, сустрэчу мы пачалі з малітвы, а потым дзяліліся аплаткай і прасфорай. Пасля саліднага пачастунку пачалося калядаванне. Абавязкова трэба было наведаць сяброў з іншых класаў. Кожны з нас параадзеўся ў што мог. Некаторыя былі аздобленыя ланцугамі і іншымі ёлачнымі аздобамі. Знайшлася тут таксама вопратка, якую мы пазычылі з класа беларускай мовы. Мы хадзілі з каляровай гвяздой і спявалі калядкі „Рождество Христово", „Бог ся рождае", „Wśród nocnej ciszy". Ва ўсёй школе чуваць было радасныя спевы праваслаўных і каталіцкіх калядак.

У гэты дзень Шаноўная Дырэкцыя была вельмі талерантная і не злавалася на нас, што мы некалькі ўрокаў прызначылі на падтрымліванне традыцыі. Гэта быў час на ўспаміны, свабодныя размовы і супольныя спевы калядак. Гэткая традыцыя ў нашай школе захоўваецца здаўна і маем надзею, што яна будзе працягвацца.

Гэты дзень быў для нас незабыўны. Невядома ці гэтак паўплываў на нас калядны настрой, ці можа цудоўна праведзены час супольнага калядавання.

**Наталля ВАСЬКО — І клас Гімназіі ў Нараўцы**

# Мяцеліца

... Далёка-далёка на поўначы жыве вецер. Вялікі працаўнік і весялун. Многа ў яго спраў. Трэба і хмары прагнаць, і мора ўсхваляваць, і птушанят пакалыхаць на галінцы. Стоміцца вецер за дзень. І хочацца яму адпачыць, пацешыцца. Тады ідзе ён на стайню. Выводзіць і запрагае ў лёгкія санкі трыста белых летуноў-коней. І гайда! Па палях, па лугах, па вуліцах!

Людзі дзівяцца: „Вось мяцеліца разгулялася!"

Яны не бачаць, дзівакі, як ляцяць белыя коні, як сцелюцца доўгія грывы і хвасты, не чуюць, як звіняць падковы. Людзі шмат чаго не чуюць і не бачаць...

А вецер! Прыгажун вецер! Левай рукой кіруе, а правай шапку падтрымлівае. Імкліва імчацца коні. А ветру яшчэ хутчэй хочацца. Як свісне ды гукне вецер:

— Гэй вы, грывастыя!

І коні віхрам імчаць далей і далей. Падляцелі да дрымучага лесу. Не спыніліся, паімчалі па заснежаных вяршынях елак і соснаў. Стогне ўстрывожаны бор. Векавы дуб прачнуўся. Незадаволена бурчыць:

— Вось, каб злавіць...

Але паспрабуй злавіць вецер, злавіць мяцеліцу. Іх след прастыў... Памчаліся далей, далей...

***М. Янчук** (скарочаная версія — Г. К.)*

**Патрыцыя БЯДРЫЦКАЯ**

## Новы год

*Я люблю Новы год*
*Таксама як мішка любіць мёд.*

*На двары ноччу феерверкі страляюць,*
*А людзі вясёлыя песні спяваюць.*

*Усе хорам час адлічаюць*
*І лепшага новага года чакаюць.*

*Усюды танцы, гулянкі і балі,*
*Толькі ў хатах з бабулямі дзеці засталі.*

*Наступнага дня ўсе бацькі будуць спаць,*
*А дзеці ўвесь дзень будуць на камп'ютарах гуляць.*



Фота Дароты Сульжык

*Лена і Соня Сульжык*


Паштоўка вучняў з НШКіМ у Беластоку, якую размалявалі з думкай пра сваіх мінскіх сяброў

Фота Міры ЛУКШЫ


Вікторыя ПАТОНЕЦ з цёцяй

# Музыка з кайфам

## Гісторыя гісторыі мае ўжо 15 гадоў




Не 10 хвілін, але прынамсі гадзіну расказаў можна скласці з аповедаў беларускіх артыстаў, якія пятнаццаць гадоў таму стварылі нейміручы праект „Народны альбом". Але пакуль узнік 10-хвілінны рэпартаж, пры дапамозе якога ў інтэрнэт-прасторы адзначаецца гэтая з'ява. Можа і добра, бо, праўду кажучы, самае важнае быць, пачуць, зразумець.

Мне двойчы здарылася быць сведкам гэтай значнай падзеі і кожны раз была яна для мяне перажываннем. Было гэта ў гадавіну прэзентацыі альбома на фестывалі „Бардаўская восень" у 2008 годзе і ў час яго першага польскага паказу. Прызнаюся, што ў час „Бардаўскай восені" ў 1998 годзе, дарэчы ў годзе ўзнікнення праекта, быў для мяне гэта проста шок. У той час усе наведвальнікі фестывалю моцна былі звязаны з яго выявай у выглядзе вакаліста з гітарай, якога называем бардам. Барды былі ў пераважэ, хаця вядома, што паяўляліся адступленні — акустычныя канцэрты такіх гуртоў як, напрыклад, „AF Braha". Але тут паявілася новая якасць. „Народны альбом" па-першае сабраў на сцэне самых выдатных творцаў гэтага часу: Лявон Вольскі, Кася Камоцкая, Аляксандр Памідораў, Піт Паўлаў, Вераніка Круглова, Зміцер Вайцюшкевіч, Юля Глушыцкая і іншыя. Хто іграў першую ролю, хто выступаў часцей на заднім плане, але быў гэта творчы пералом.

Не было б гэтай незвычайнай сустрэчы, калі б не гістарычна-мастацкія зацікаўленні з боку артыста, паэта, крытыка культуры Міхала Анемпадыстава. Першы твор да праекта, паводле аўтара яго ідэі, узнік яшчэ ў... 1983 годзе і распавядаў пра настаўніка Рагойшу. Быў гэта рэп паводле адчуванняў Міхала Анемпадыстава і ў такой форме паявіўся ў праекце. Далей ідэі, сітуацыі і гісторыі паяўляліся гусцей, больш інтэнсіўна і зусім натуральна, а вобраз Беларусі 20-х гадоў мінулага стагоддзя, які пабудавалі ў праекце, здаецца быць вельмі аўтэнтычным. Гэта безумоўна талент аўтара і выканаўцаў.

Пасля большасць з іх працягвала сваю супольную дзейнасць у праекце „Я нарадзіўся тут", таксама вельмі паспяховым, але гэта „Народны альбом" стаў альбомам краіны, таксама альбомам сямейным для шматлікіх, першай кнігай для навучання беларускіх песень ці першым момантам сустрэчы з творчасцю Лявона Вольскага. Розныя ролі адыграў гэты праект у нашым жыцці, але без сумнення трэба сказаць, што запісаўся ўжо ў гісторыі сучаснай Беларусі і кожны раз нагадвае нам пра тое, што змагацца за мову і культуру трэба было і пэўна трэба будзе яшчэ.

i_basovka@o2.pl

# Загадка (№ 2-13)

(Адказы дашліце ў „Зорку" да 30 студзеня 2013 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды).

*Па зямлі я не хаджу*
*І на неба не гляджу,*
*Вочы маю — не міргаю,*
*Маю рот — не гавару,*
*Ёсць і хвост, але не звер я.*
*І не птах, хоць ёсць і пер'е.*
*Хаты з роду не будую,*
*Ды ні трохі не бядую.*

**(Ніл Гілевіч)**

Адказ на загадку № 49: Сонца. Маркеры для малявання коміксаў выйгралі **Аляксандра Лашэўская і Міхал Сахарчук** з НШ імя КіМ у Беластоку.

**Вікторыя ПАТОНЕЦ**

# Свята

*Хутка сыдзе снег*
*і будзем святкаваць*
*вялікае свята.*
*Як я яго люблю!*
*Штогод яго чакаю.*
*Ёлка ўстроеная ў пакоі стаіць,*
*як сонца зіхаціць.*
*Дзеці скачуць і гуляюць*
*і Дзеда Мароза праз акно*
*выглядаюць.*

# Вершы Віктара Шведа

## Улоў

Янка на раку прыйшоў
І чакае на улоў.
Накапаў шмат чарвякоў,
Запасных набраў кручкоў.

З усіх падрыхтоўчых спраў
Толькі грошыкаў не ўзяў.
З чым жа вернецца дамоў,
Як не здарыцца улоў?

## На ўроку белмовы

Настаўніца Мішу
Да дошкі паклікала
— Скажы, калі мы пішам
Літары вялікія?

Пачуў тут Міхасёк
Падказку Мікалая:
— Пішам тады, калі зрок
Слабы надзвычай маем.

# Польска-беларуская крыжаванка №2

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 50:

Яда, вагон, след, наш, снежань, вока, но, Ева, старажыл. Мяч, свет, аснова, лекар, вежа, вада, ноты, конь, на, школа.

Узнагароды, набор каляровых алоўкаў, выйгралі **Сандра Пятроўская** з Орлі, **Дамініка Благушэўская, Давід Ясюк, Міхал Сахарчук, Якуб Матышэк, Аляксандра Салавянюк** з Беластока (з НШ св. КіМ), **Магдалена Хвашчэўская** з Бельска-Падляшскага, **Караліна Каравай, Патрыцыя Лаўнічук, Крыстына Леўша** з Нараўкі. Віншуем!







Фрагменты ўпрыгожанняў хаты Надзеі Мішчук

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Госць у дом, Бог у дом

Калёнія Студзёнка раскінулася ў маладаступных нетрах Кнышынскай пушчы. Парусот метраў далей дажываюць помнікі колішняга вершалінскага цэнтра свету. Як кажуць навакольныя старажылы, назва гэтай мясцовасці бярэцца ад яе неглыбокіх, лясных калодзежаў — студзёнак. Як калісь, так і цяпер стаяць там дзве хаты. У адрозненні ад навакольных вёсак, яны ніколі не пуставалі, але і рэдка заставаліся ўласнасцю аднаго роду. Адна з іх знаходзіцца ў руках крынскага надлясніцтва, у другой жыве сямідзесяцідзевяцігадовая Надзея Мішчук з сям'ёю.

Спадарыня Надзя з сённяшняга пункту гледжання чалавек даверлівы. Нават незнаёмых адразу запрашае ў свае парогі. У жыцці моцна трымаецца жалезных прынцыпаў. Правіла нумар адзін: „Госць у дом, Бог у дом". Прышэльцам разбувацца не дазваляецца. Іх месца за застаўленым сталом, дзе нават курыць можна колькі „душа пажадае". Як сама кажа, хаця са здароўем не найлепш, але сіл яшчэ хапае, каб змыць падлогу. Такая ўжо яе натура. За перадкалядным, кухонным сталом частавалася я гарачай гарбатай і размаітымі пірагамі, прывезенымі ўнучкам з Саколкі. „Пакуль не з'ясі, дахаты не адпушчу", — раздаўся прыгавор гасціннай гаспадыні. Спадарыня Надзя задаволена, што хаця жыве далёка ад людзей, то заўсёды іх тут дастаткова. Заглядаюць з ахвотай і сваякі, і леснікі, і, як сёння, зусім незнаёмыя. Яна не ў змозе адказаць на пытанне, што іх тут так прыцягвае, але прызнаецца, што найчасцей знаёміцца з людзьмі вучонымі. Адзін пчаляр з Ольштына заўсёды з падаркамі прыязджае, ніяк не можа аддзякаваць за мясцовую гасціннасць, якой нідзе больш не спазнаў. Дарэчы, у далёкую Вармію, тады больш вядомую як Усходняя Прусія, у 1950 годзе ў пошуках лепшага жыцця падаліся першыя гаспадары гэтай хаты. Сям'я мужа спадарыні Надзі таксама думала затрымацца тут часова, а потым намервалася дзесьці далей уцякаць. Склалася інакш. Цесць нечакана ў пясок адправіўся, а і ўласнаручна адрамантаваную хату жаль было пакідаць. У Студзёнку спадарыня Надзя папала замужам. Сваіх першых дваццаць адзін год пражыла ў падобнай па ліку сядзіб, бо з чатырох хат, паднятупскай Слабодцы. Там прайшоў найцудоўнейшы перыяд ейнага жыцця.

— Да Нетупы было нам паўкіламетра, — тлумачыць яна. — Мае браты ў пашпарце маюць упісаную калёнію Слабодка як месца нараджэння, а ў мяне Нетупа стаіць, усё роўна як якісь я нетупскі чалавек.

Ёсць адзін госць, якога спадарыня Надзя з задавальненнем прагнала б з хаты. Яго імя — Старасць. На яе думку, старасць вельмі брыдкая і безнадзейная, затое маладасць прыгожая, цікавая і вясёлая.

— Чулі вы пра такога спевака Веслава Міхнікоўскага? — пытаецца спадарыня Надзя. — Ужо пажылы чалавек, выходзіць на сцэну, трасецца і спявае „Вэсолэ ест жыце старушка". Як я падышла б, як нагнала б, то паляцеў бы з таго тэлевізара аж пад Гураны. А якое ж яно вясёлае... От, пераначаваў, добра што пераначаваў, далей, да заўтра.

Жаль, што мая субяседніца не мае ахвоты адступіць менавіта ад гэтага прынцыпу. Здаецца, жанчына, як ніхто іншы, валодае ўсімі неабходнымі прыкметамі вечна маладой душы. Яна ніколі не ўглядаецца ў люстэрка, але свае старыя фотаздымкі гартае з задавальненнем. Любіць паўспамінаць часы бесклапотнага дзяцінства. У роднай Слабодцы было іх тры сяброўкі: дзве Надзі і Клаўдзія.

— Разам збіраліся на піліпаўскія кудзельніцы з пруткамі і калаўроткамі. За лямпай да поўначы маглі прасядзець. Прыходзілі і нетупскія, з якімі жылі як з аднавяскоўцамі. Хлопцы безупынна фокусы ім рабілі. То шнуры з калаўротка скідалі, то падкрадаліся за плячыма дзяўчат і пруткі ім выцягвалі. А бедным кудзельніцам што і раз прыходзілася збіраць „загубленыя вочы".

Да спадарыні Надзі якраз моцна не прыставалі, баяліся. Калі б каторы наклікаў на сябе яе гнеў, ейныя тры браты хутка з ім справіліся б. Весела было і ў святыя вечары з гульнямі, варожбамі і, канешне, з танцамі, да якіх на скрыпцы падыгрываў Мікалай Байгуз.

Свайго бацькі спадарыня Надзя не помніць. Яго ў 1942 годзе забілі немцы. Маці сама гадавала чацвёра дзяцей. Спадарыня Надзя ўспамінае маці як вельмі разумную, паважную і набожную жанчыну. Заўсёды была рада маладым гасцям, у забаве ніколі не перашкаджала. Маладыя ўмелі і любілі гуляць і без гарэлкі абыходзіліся. Мама спадарыні Надзі заўсёды частавала смажанымі пышкамі і збожжавай кавай. Усе сытыя і задаволеныя вярталіся назад, доўга ўспамінаючы Надзін пачастунак. З незвычайнымі смакамі звязаныя асабліва ўспаміны каляднай вячэры. Меню яе дзяцінства было даволі простым і сціплым, але прыгатаванне страў з'яўлялася надзвычай доўгай і складанай працэдурай.

— На аўсяны кісель мама сушыла ў блясе авёс, які потым адно з дзяцей мусіла змалоць у жорнах. Тады маці ў сагане залівала дзве міскі змеленай мукі цёплай вадою і пакідала нанач, каб пракісла. Пах, які разыходзіўся ад таго па хаце, напужаў бы кожнага цяперашняга чалавека. А нам так пахла, бо тады перад калядою ніхто нічога не еў. Хіба што хто хлеба ўкраў трохі, каб маці не бачыла. На другі дзень кісель праз сітачка адцэджвалі ў другі саган, потым зноў паласкалі вадой, ад якой пайшла прымаўка „дзесятая вада па кісялю". Тады яго варылі, пільнучы, каб не прыгарэў. Спажывалі кісель паліты смажанай цыбуляй альбо пасыпаны цукрам. Цэлай сям'ёю рыхтавалі вялікі саган куцці з цукрам, якая знікала вокамгненна. Быў і кампот з сушаных груш і яблык. Вельмі смакавалі колішнія селядцы з цыбуляй. Смажаная рыба гэта выдумка пазнейшых часоў, пра карпа не ўспамінаючы. Як той куцці наешся з кісялём і селядцамі, то ў страўніку больш месца не заставалася. А тут трэба было папрабаваць грыбнога квасу і дражджавых аладак, пасыпаных паверх цукрам, якіх штогод маці пякла велізарную міску. Елі з постам і наядаліся дасыта. Цяпер гэта не свята, калі штодзень ясі як і ў свята, — з горыччу прызнае мая субяседніца. — Хто цяпер свята чакае, людзі адвыклі ад посту. Нават на калядным стале яго цяжка знайсці пасярод італьянскіх, нямецкіх і хто ведае якіх яшчэ страў. Затое цяпер стаўляюць ёлку і ўручаюць падаркі, а калісь толькі сена пад абрус клалі. Потым, павячэраўшы, выцягалі і мерылі яго, каб даведацца хто колькі гадоў пражыве. Каляднага стала нанач ніхто не прыбіраў. Усё душам астаўлялі.

У роднай вёсцы маёй субяседніцы калядак амаль не спявалі. Не было звычаю калядаваць па хатах. Адна маці добра іх ведала і часам спявала, але ніхто з дзяцей яе ў гэтым не падтрымваў. Спадарыня Надзя прызнаецца што так і на працягу цэлага свайго жыцця не пазнаёмілася з праваслаўнымі калядкамі. Затое вельмі добра ведае польскія. Іх вучылася ў польскай школе, а і па радыё, і тэлевізары безупынна іх пускаюць. Яна папрасіла ўспомніць і праспяваць разам хаця б адзін куплет праваслаўнай калядкі, што і збылося.

Спадарыня Надзя была вельмі рада новаму знаёмству. Перад самым адыходам запрасіла яна на чарговыя бяседы пры старых, сямейных фотаздымках і пірагах.

# Дэбют 2012


Надзея КАРЧЭЎСКАЯ

### 1.

Ой, сама я, сама
У матулі была.
Робуткі ны робыла,
Бо мэне ны учыла.
Гусьтавка була,
То я гусьталася,
Як прыехав хлопец,
То закохалася.
Матуля мартвылась,
Як я буду жыты
Як я выйду замуж,
Ны вмію робыты.
І я вышла замуж,
Тяжко то прожыла,
Одён дэнь у тэсьцёв
Голодом морылі.
Потым зрозуміла,
Жэ мушу шчось робыты,
Жэбы в той хаты
Могла з мужом жыты.
А матуля мужа мэнэ нэ одганяла
І в каждой роботы
Шчыро помагала.
Шчобы ны зробыла,
То мэнэ хваліла
І за кілька тыжні
Много научыла.
Жыце точылосё,
Було очэнь міло
Родітілі прыежджалі,
Сватом і Богу діковалі.
Людэ прыходылі
І нам заздростылі
А мій муж коханы
Був для мэнэ бардзо мілы.

### 2.

Выжалі жыто,
Выгналі воўка,
У нашого господара
Сыва головка.

Выжалі жыто
То шчэй пшаныцю,
Будэмо йісты
Цілу зымыцю.

Цілу зымыцю,
То шчэй до вэсны
Дзекуймо Богу,
Майім шчо йісты.

Якійі ж рады
Той людэ былі,
Як по сноповы
Ціпом гвоздылі.

Потом до жарнов
Зярно всыпалы
І з тэйі мукі
Хліб выпекалы.

А якая радосьць
Була в той хаты,
Як запах з хліба
Іішов по хаты.

Мужык із поля
Той повэртае,
А жонка з хлібом
Його вітае.

Ой, сядай, мужык,
Ты коло мыскі
Хліба напекла,
Майім шчо йісты.

Мыска нэ пуста,
А хліб той смачны,
Дзякуймо Богу
За год удачны.

Дзякуймо Богу,
Ны забуваймо,
Вэ вжэсьню жыто
Знов засываймо.

А як ты пуйдэш
Ужэ засываты,
То ны забудься
Пэрэжэгнатысь.

Мы всі людэ
Просімо Бога
О добру зыму,
Шчоб нэ выпіло
І всім людём хліба хватыло.

### 3.

За горэю гора, за горэю вышня,
Хоч ныкого ны знала, алі замуж выйшла.
Бо то былі таке часы, прэвэдут до хаты,
А як хлопец сподобае, постановыт браты.
І я вышла за його і була шчаслива,
Бо вон мэнэ шановаў, а я його любила.
А тэпэр настали часы, аж страх подуматы,
Бо сама дывчына прыходыт дохаты.
Прыходыт дохаты, ны про шчо нэ дбае,
Навэт по вэчэры мысок нэ змывае.
Ходят рок, ходят два, потом росстаются,
А батькі з того всёго на сэбэ злуются.


Ян ФЕДЗЮКЕВІЧ

## Цяжкі ўспамін

Мо будзе хто калі на месцы Папоўкі,
Дзе сёння помнік бетонны стаіць.
Прад ім пахілі ты з пашанай галоўку
І кветку, хоць з поля, пры ім палажы.

Аб вёсцы Папоўцы забыцца не можам
І памяць увечніць яе жыхароў,
Якія, расстрэляны куляй варожай,
Навечна ляжаць у зацішшы лясоў.

Ў магілу, дзе помнік, пaдала маці,
Трымаючы дочку сваю на руках,
Фашыстаў не ўзрушылі слёзы дзіцяці,
Град слёз не трывожыў на дарослых вачах.

Сюды не падыдзе сынок ані дочка,
Каб бацьку ці маці сваю ўспамінаць,
Бо ўсе яны разам у жоўтым пясочку
На векі-вякоў пад бетонам ляжаць.

Калі каму прыйдзецца быць у Папоўцы
Дзе помнік вечны на ўзлессі стаіць,
Прад ім пахілі у маўчанні галоўку
І кветку пры ім не забудзь палажыць.

## Наша будучыня

Запрагайце, хлопцы, коні!
Хопіць трактарам катаць.
Выйдзем конна на загоны,
Каб па-даўняму араць.

Даставайце зноў сячкарні,
Прачышчайце маняжы.
Трэба латаць стары парнік,
Што дзіравы ад іржы.

Дачапляйце ў воз аглоблі,
Дышаль кіньце пад страху,
Забівайце зубы ў граблі,
Ладзьце новую саху.

З-пад страхі касу вазьміце,
Навучыцеся касіць,
А гадзіннік палажыце —
Певень будзе вас будзіць.

Пакуль жывы яшчэ дзядуля,
Хай касу вучыць кляпаць,
А старэнькая бабуля
Няхай кросны вучыць ткаць.

Трохі ворнай ды балота
Вы пакіньце для сябе,
Бо інакш будзе згінота,
Не задбаюць пра сябе.

Нам зямлі многа не трэба,
Абы сем'і пракарміць,
Мець кармы ды сабе хлеба.
Прывыкаць трэба так жыць.

У каго ёсць старыя жорны —
Стаўце ў сені чым хутчэй,
Будзем зноў малоць у іх зёрны
Вечарамі пры свячэ.

Трэба зноў забыць пра грошы,
Бо і скуль жа іх дабыць,
Хутка будзем голы, босы,
Касцюм, туфлі трэ забыць.

Абіякі нас уцешаць,
Зрэбну куртку трэба шыць,
Хай нам Захад брава плешча,
Што ў Польшчы добра жыць.

Гэтак будучыня наша
Паляпшаецца штодзень.
На стале бульба ды каша,
З дзяжы квас ды цёрты хрэн.

Запрагайце, хлопцы, коні,
Ды ў касцёл трэба спяшаць,
Не паедзе ўжо „палёнэз”,
Бо за што бензін купляць?

## Слова пра Беларусь

Беларусь! Што за старонка!
Як жа яе не любіць?!
Там нясецца песня звонка,
Песня, якой не забыць.

Там дзяўчаты маладыя
У клубе, ў полі — ўсё пяюць,
І бабулькі, хоць старыя,
Фальклор верна берагуць.

Бела-Русь — названне метка;
Значыць, чыста, як раса,
З году ў год цвіце, як кветка,
Штогод мацней яе краса.

Беларусь — лугі, азёры,
Палі, што хлебам каласяць,
І сінь ракі, што льецца ў мора,
Птушкі, што ў небе галасяць.

І лес зялёны, у ім суніцы,
І кветкі ў полі, што цвітуць,
І нават тое, што прысніцца,
Калі пры песеньцы заснуць.


Мікалай ВАРАНЕЦКІ

## Мая вёска

Памірае мая вёска,
Адыходзіць у нябыт;
Зарастае лесам поле.
Мала хто тут хоча жыць.

Маладыя паўцякалі —
Сядзяць сабе ў гарадах,
А старыя дажываюць,
Чакаючы свайго канца.

Тут не ладзяцца вяселлі
І хрысцін зусім няма...
Смерць за смерцю — пахаванні,
Крыж за крыжам — плач, туга.

Тут стаяць пустыя хаты —
Смутак, боль, роспач адна.
Жураўлі крычаць над лугам:
„Тваёй вёскі ўжо няма!”

Канец вёсцы, канец людзям,
Канец хатам без жыцця.
Калі вымрэ мая вёска,
Разам з ёю памру я.

## Рассталіся

Любіліся, кахаліся,
Сем год разам жылі;
Раптоўна пасварыліся, —
Развод яны ўзялі.

Забыліся як кляліся
Супольна разам жыць;
Стварыць сям'ю шчаслівую,
Друг другам даражыць.

Цяпер не хочуць знацца ўжо,
Яна цвярдзіць сваё...
А ён даказвае для ўсіх,
Што праўда то яго.

Ім пагадзіцца бы, забыць
Былыя крыўды ўсе —
Дыктуе розум, логіка.
А гонар не дае.

Даўней жылі, кахаліся
І верылі сабе.
Цяпер ужо расталіся,
Расталіся ў судзе.

## У Ляўкове

Запальвае вечар агні
У мілым Ляўкове маім.
У клубе фабрычным свой хор,
Тут песні ляцяць аж да зор.

„Цаглінкі” спяваюць-пяюць,
Канцэрт за канцэртам даюць;
Іграе нястомна баян,
Як ходзіць за рэчкай туман.

Трывожна ўздыхаюць басы
Аб цяжкім сялянскім жыцці,
Аб подзвігах нашых дзядоў,
Аб жахах ваенных гадоў.

У міры так хочацца жыць,
За працай спяваць — не тужыць;
Аб шчасці „Цаглінкі” пяюць,
Канцэрт за канцэртам даюць.

Прапаў каля рэчкі туман,
Пайшоў на спачынак баян.
Пагаслі ў Ляўкове агні,
А песні жывуць у душы.

1 ☞працяг

# Скарачэнні на адну шостую

**песні ці Фестываль царкоўнай музыкі (ёсць Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі).**

— Гэтая дамова не выключае ў будучыні супольнай арганізацыі вялікіх польска-беларускіх культурных мерапрыемстваў у нашым ваяводстве. Цяжка мне, аднак, дэталёва адказаць на гэтае пытанне, таму што Маршалкоўская ўправа не была бокам гэтай дамовы.

**— Нядаўна па ініцыятыве Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства дайшло да сустрэчы з прадстаўнікамі незалежных творчых асяроддзяў з Беларусі ў Польскім доме ў Бруселі. Чаму не былі запрошаны да гэтага «круглага стала», а нават аб ім не паінфармаваны раней прадстаўнікі беларускай меншасці ў Польшчы?**

— Цяжка мне адказаць на гэтае пытанне. Наш дэпартамент не ўдзельнічаў у арганізацыі гэтага «стала». Арганізаваў яго Дэпартамент супрацоўніцтва з замежжам і прапаганды нашай управы. Напэўна было б гэта з карысцю для гэтага спаткання, калі б прадстаўнікі беларускай меншасці ў Польшчы, з нашага ваяводства, прынялі ў ім удзел.

**— У 2013 годзе будзе менш ці больш грошай на культуру?**

— Ёсць гэтак званыя сектары ў падляшскай культуры, якія атрымаюць крыху больш грошай, але генеральна будзе іх менш. На бягучую дзейнасць нашых устаноў (значыць, Драмтэатра, Падляшскага музея, Падляшскай ксёнжніцы, Асяродка «Пагранічча» ў Сейнах, Музея сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы, Ваяводскага асяродка анімацыі культуры — М. Х.) ёсць невялікае павелічэнне. Паменшаны затое будуць сумы на інвестыцыі, паколькі наша ўстанова стаіць на пазіцыі, што павінны мы падрыхтавацца да новай фінансавай еўрасаюзнай перспектывы 2014-2020 гадоў і з гэтых вонкавых сродкаў павінны быць яны фінансаваны. Мы павінны падрыхтаваць адпаведныя праекты для такога фінансавання.

**— Ці сума застанецца на падобным узроўні як у мінулым годзе на датацыі мерапрыемстваў нацыянальных меншасцей у рэгіёне, у тым ліку беларускай?**

— У рамках адкрытых конкурсаў прапаноў, якія з'яўляюцца ўласным заданнем кіраванага мною дэпартамента, наступіла скарачэнне на 200 тысяч злотых...

**— Гэта шмат.**

— Фактычна, гэта шмат. Гэта памяншэнне на адну шостую сродкаў, якія былі да гэтага часу. У сувязі з тым, у рамках гэтых конкурсаў праўдападобна будуць паменшаны датацыі на мерапрыемствы меншасцей, у тым ліку і беларускай. Так вось другая сёлетняя аб'ява па прыёме заявак будзе ўжо з сумай меншай чым у мінулым годзе.

**— Што тады будзе больш прыярытэтна трактавацца?**

— Цяжка мне сказаць у гэты момант. У прынцыпе рашэнне будзе залежаць ад маршалка і Управы, ці тыя грошы тут будуць роўна размеркаваны на ўсе прыярытэты, ці мо найважнейшыя культурныя мерапрыемствы будуць патрактаваны больш прыярытэтна. Трэба таксама памятаць, што самаўрад ваяводства можа падтрымаць некаторыя культурныя мерапрыемствы ў рамках іншых сваіх дзеянняў. Думаю, што будзе гэта вядома на пераломе студзеня і лютага.

**— Адкуль такое скарачэнне?**

— Скарачэнні кранулі ўсе дэпартаменты ды ўстановы і адміністрацыйныя адзінкі. Паколькі неабходным было скарачэнне бюджэтнага дэфіцыту, бо вялікі дэфіцыт рабіў бы немагчымым хадайнічанне за вонкавыя сродкі, у тым ліку не маглі б мы поўнасцю выкарыстаць еўрасаюзныя сродкі.

**— У Беластоку заініцыявала дзейнасць «Вспультура», рух яднаючы больш за шэсцьдзесят устаноў і культурных арганізацый з Падляшша (у гэтым ліку м.інш. Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Музей малой айчыны ў Студзіводах ці «Ніва»), які намерваецца супольна рэалізаваць разнародныя мерапрыемствы і разам здабываць сродкі на дзейнасць. Што на гэта Маршалкоўская ўправа?**

— Цяжка гаварць аб уключэнні Маршалкоўскай управы ў такую ініцыятыву, бо гэта не нашае заданне і, здаецца, няма такой патрэбы. Нават можа і лепш было б для «Вспультуры», каб адміністрацыйная ўстанова, ці ўстановы, не мяшаліся ў гэтую ініцыятыву. Добра было б, аднак, каб наша ўстанова трактавалася як назіральнік-удзельнік, які ў абгрунтаваных выпадках падтрымаў бы дзеянні «Вспультуры». Напэўна гэта добрая і патрэбная ініцыятыва, дзе супрацоўнічаюць з сабою няўрадавыя арганізацыі і культурныя ўстановы, падчыненыя розным узроўням самаўрада. Можа гэта даць плён у сур'ёзнай каардынацыі дзеянняў паміж імі і рэалізацыі супольных заданняў, а, як вядома, там дзе спалучаюцца розныя задумы і сілы ды прытым і сродкі, можна дасягнуць значна большага выніку для мерапрыемстваў і для горада, і для рэгіёна. Няма таксама патрэбы, каб «Вспультура» інстытуцыяналізавалася і ўзнікла нейкае чарговае тварэнне.

**— І на канец. Успомнілі Вы аб «Вершаліне», фармальна падчыненым Маршалоўскай управе, кіраваным Пятром Тамашуком. Ёсць пагроза, што гэты, займаючыся шматкультурнасцю ў тэатральным маштабе супрасльскі тэатр, прызнаны на сусветных тэатральных фестывалях, можа знікнуць з карты Падляшша?**

— Гэта адна з найбольшых нашых параз і незавершаных спраў мінулага года. Будынак «Вершаліна» патрабуе неадкладнага рамонту. Яго ўласнікам надалей з'яўляецца горад Супрасль, а ў сувязі з тым ваяводскі самаўрад не можа фінансаваць рамонту. Далейшая такая сітуацыя спрычыніцца да таго, што Тэатр «Вершалін» будзе прымушаны змяніць сваю сядзібу, не будзе далей дзейнічаць у Супраслі. Гэтую справу трэба будзе аформіць у 2013 годзе: або пачаць рамонт, або перанесці тэатр у іншае месца.

**— Хто віноўны ў гэтай сітуацыі?**

— Улады горада Супрасль.

**— Дзякуем за размову.**

**Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Студэнцкі навінавы канал 17/11

# http://17-11.info

Спрадвеку студэнцтва лічылася адной з найбольш прагрэсіўных груп грамадства. Гэтая прагрэсіўнасць мела пад сабой аб'ектыўны грунт — маладосць ёсць своеасаблівым адрынаннем старога, што ўжо аджыло ці аджывае свой век. Дыялектычнае адмаўленне адмаўлення заўсёды правакавала канфлікт бацькоў і дзяцей, што часцяком станавілася перадумовай прагрэсу, у тым ліку і грамадска-палітычнага.

Праўда, за часамі камуністаў грамадская незалежная актыўнасць беларускіх студэнтаў практычна знікла. Пасля непрацяглага ўздыму ў 80-90-я гады мінулага стагоддзя беларускае студэнцтва цяпер не надта „ірвецца на барыкады" адстойваць свае правы і погляды. Канфармізм стаў асноўным спосабам існавання. З таго казаць аб беларускім студэнцтве як нейкім рухавіку грамадскага прагрэсу ў Беларусі не выпадае. Разам з тым сцвярджаць аб суцэльнай пасіўнасці навучэнскага асяроддзя нельга, бо і сярод іх ёсць групы, хай сабе і малыя, якія прагнуць унесці сваю лепту ў нейкае непраўдападобнае яднанне студэнтаў і вызначэнне нечага агульнага ў іх поглядах. Прыкладам такіх намаганняў можна назваць невядомых ініцыятараў стварэння сайта „Студэнцкі навінавы канал 17/11", які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://17-11.info**.

На першы погляд сайт не вельмі ўражвае — неяскравая колеравая гама, адсутнасць фотаздымкаў і нейкіх цікавых аздабленняў наўрад ці могуць надоўга прыцягнуць увагу выпадкова зайшоўшага на гэтую інтэрнэт-бачыну карыстальніка. Да таго ж не надта зручна размешчаны выйсці на рубрыкі сайта — уверсе выяўлення іх чатыры, а ў самым нізе месціцца астатнія, якія нават не хутка пачынаеш шукаць.

„Студэнцкі навінавы канал 17/11" — гэта інфармацыйная пляцоўка ў інтэрнэце, якая створана для інфармавання беларускіх студэнтаў аб дзейнасці незалежных студэнцкіх арганізацый і ініцыятыў, пра навіны беларускіх універсітэтаў, а таксама аб правах студэнтаў і выпадках іх парушэнняў. Мы лічым, што кожны студэнт павінен навучыцца крытычна мысліць і браць адказнасць за свае ўчынкі. На нашай інтэрнэт-пляцоўцы актыўныя студэнты маюць магчымасць знайсці аднадумцаў, каб разам вырашыць агульныя праблемы. Галоўнае ўдзельнічаць у развіцці навінавага канала 17/11. Асноўны лозунг канала: „Забаронена забараняць!" — пішуць невядомыя падбухторшчыкі студэнцкай актыўнасці.

Яны таксама пазначаюць, што гэты сайт накіраваны на развіццё існуючых і будучых студэнцкіх арганізацый і ініцыятыў, і заклікаюць карыстальнікаў да распаведу аб іх.

Як вядома, 17 лістапада з'яўляецца Міжнародным днём студэнтаў, таму не дзіўна, што ў назве партала стаяць лічбы 17/11. Што ж тычыцца правоў студэнтаў, барацьбу за правы якіх сімвалізуе гэтая дата, то гэтая рубрыка, да гонару ўладальнікаў сайта, ідзе першай пасля галоўнай старонкі.

Цікавай падаецца і старонка „Студэнцкія арганізацыі". Праўда, там з большага не ходзіць аб назвах і кантактах арганізацый, толькі месціцца артыкулы аб некаторых з іх. Прычым сустракаюцца тэксты аналітычнага характару.

Неблагой бачыцца старонка „Абвесткі". Там можам знайсці такую-сякую інфармацыю пра падзеі, што маюць адбыцца хуткім часам і, натуральна, будуць цікавымі для студэнцкай моладзі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Птушка з падрэзанымі крыламі

# 120 гадоў з дня нараджэння Канстанцыі Буйлы

14 студзеня спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння беларускай паэткі Канстанцыі Буйлы (у большыні крыніц яе прозвішча падаецца як „Буйло"), айчыннай творцы, якая перажыла некалькі эпох і была сведкай многіх падзей. Нарадзілася яна ў Вільні ў 1893 годзе, там жа атрымала сваю першую адукацыю. Бацька будучай паэткі працаваў аб'ездчыкам коней ні то ў графа Тышкевіча, ні то ў князя Гагарына, а пасля пераезду ў мястэчка Вішнева Ашмянскага павета стаў арандатарам. Буйла, скончыўшы ў Вільні настаўніцкія курсы, працавала ў школе на Лідчыне, загадвала беларускай кнігарняй у Полацку. Пасля таго як кнігарня зачынілася, перайшла на працу ў земскі саюз. У 1923 годзе лёс закінуў яе ў Маскву. З 1933 года, калі яе муж Віталь Калечыц патрапіў пад сталінскія рэпрэсіі, працавала на заводзе. Усё далейшае жыццё паэткі прайшло ў Маскве, дзе яна была на службе ў розных прамысловых установах.

Як і многія іншыя беларускія творцы Канстанцыя пачала друкавацца ў віленскай „Нашай ніве". Прычым першыя вершы былі змешчаны пад імем яе брата Эдуарда. Першы зборнік паэзіі Буйлы „Курганная кветка" выйшаў у Вільні ў 1914 годзе ў легендарнай друкарні Марціна Кухты. Рэдактарам гэтай кніжачкі быў Янка Купала. Канстанцыя сябравала з ягонай жонкай — Уладзіславай Луцэвіч. А афармляў „Курганную кветку" (яна была выдрукавана таксама факсімільна ў 1989 годзе) Язэп Драздовіч. Пазней, цягам розных гадоў, у паэткі выйшаў яшчэ дзесятак паэтычных зборнікаў, сярод якіх і кніжка вершаў для дзяцей „Юрачка". Максім Гарэцкі лічыў Канстанцыю Буйлу „найбольш выдатнай пасля Цёткі жаночай сілай у нашай паэзіі". Мела прызнанне паэтка і ад улад БССР, якія ўганаравалі яе тытулам заслужанай дзеячкі беларускай культуры. Хоць у савецкі час яе і папракалі ў празмерным беларускім патрыятызме. Можа таму спадарыня Канстанцыя і адмовілася святкаваць у 1968-м годзе свой юбілей. Ёй было гэта непатрэбна. Напэўна ў чужой Маскве паэтка адчувала сябе птушкай з падрэзанамі крыламі.

У творчасці Канстанцыі Буйлы знайшлі шырокае адлюстраванне фальклорныя матывы. А адзін з яе вершаў, які паклаў на музыку Мікола Равенскі, стаў народнай песняй „Люблю наш край, старонку гэту" — ці не найвялікшае прызнанне для творчай асобы.

Канстанцыя Буйла амаль дажыла да незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Памерла яна ў 1986 годзе ў разгар „перабудовы" ў Маскве. Урна з парэштками была прывезена ў Беларусь і пахавана на могілках у Вішневе Валожынскага раёна. Мясцовая вішнеўская школа носіць яе імя.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



4 ☞ працяг

# За князем Уладзімірам

ци наши сего не прияли суть». Се слышавше, жидове козарьстии придоша, ркуще: «Слышахомъ, яко приходиша болъгаре и хрестьяни, учаще тя кождо ихъ вере своей. Хрестьяни бо верують, егоже мы распяхомъ, а мы веруемъ едину Богу Аврамову, Исакову, Ияковлю». И рече Володимиръ: «Что есть законъ вашь?» Они же реша: «Обрезатися и свинины не ясти, ни заячины, суботу хранити». Онъ же рече: «То кде есть земля ваша?» Они же реша: «Въ Иерусадиме». Онъ же рече: «То тамо ли есть?» Они же реша: «Разъгневалъся Богъ на отци наши и расточи ны по странам грехъ ради нашихъ, и предана бысть земля наша хрестьяномъ». Володимиръ же рече: «То како вы инехъ учите, а сами отвержени от Бога? Аще бы Богъ любилъ васъ, то не бысте расточнени по чюжимъ землямъ. Еда и намъ то же мыслите зло прияти?»”

Так вось мусульманскім місіянерам адказаў быў князь Уладзімір: „Рускія рады піць, не можам без гэтага жыць”. А калі б ён, як вельмі агульна Гарбачоў тысячагоддзем пазней, прыняў быў ад іх *сухі закон* і перавёў сваіх падданых у мусульманства?.. Магчыма, што ўзнік бы Кіеўскі халіфат і што арабская культура рванулася б у Еўропу не толькі цераз Кордаву, а такая ж палітычная мадэль не толькі цераз Стамбул. Інакш выглядала б таксама мясцовая штодзёншчына. Уладзімір Улашчык, пішучы пра сельскую гаспадарку колішняга Беластоцкага рэгіёна, сцвярджаў, што недзе з 1840 года бульбу садзілі ў агародах і ў полі ды ўжывалі яе не толькі для харчавання як дадатку да хлеба, але прызначалі яе таксама на корм хатняй жывёле і спіртзаводам для перагону на гарэлку. Вядома, што бульбай кармілі галоўным чынам свіней, а не галоўных у мусульманскім меню авечак ці коней. I калі б вось святы князь Уладзімір быў прыняў мусульманства, тады і вырошчванне бульбы не прыняло б у нас такіх маштабных размераў: тутэйшыя не патрабавалі б ні бульбасаджалак, ні бульбакапалак — заміж іх хапіла б ключак і матычак...

Нягледзячы на рэкламы місіянераў, князь Уладзімір не спяшаўся прымаць новую веру. Ён даволі насцярожана аднёсся да іх аповедаў і рашыў паслаць сваіх разведчыкаў у іх краіны, каб пабачылі, у чым сутнасць прапанаваных яму рэлігій. Летапіс: „Они же реша, яко ходихомъ первое в Болгары и смотрихомъ, како ся кланяють въ храмине, рекше в ропате, стояще бес пояса: и поклонивься, сядет и глядить семо и овамо, акы бешенъ, и несть веселия у нихъ, но печаль и смрадъ великъ. И несть добръ законъ ихъ. И придохомъ в Немце и видихомъ службу творяща, а красоты не видихомъ никоеяже. И придохом же въ Грекы, и ведоша ны, идеже служать Богу своему, и не свемы, на небеси ли есмы были, или на земле: несть бо на земли такого вида или красоты такоя, недоумеемь бо сказати. Токмо то вемы, яко онъде Богъ съ человекы пребываеть, и есть служба ихъ паче всих странъ”.

Але і гэтага было мала, патрэбная яшчэ была фармальная зачэпка для хрышчэння, таму князь Уладзімір пайшоў на Канстанцінопаль і зажадаў сабе за чарговую жонку царскую дачку. Візантыйскі цар згадзіўся, але з той умовай, што Уладзімір прыме веру новай жонкі. Уладзімір адказаў: „Глаголите цесарема тако, яко азъ кресщюся, яко испытахъ преже сихъ дний законъ вашь, и есть ми любъ, и вера ваша и служение, иже ми исповедаша послании нами мужи”.

Летапіс: „Злодеивый же диявол и все его бесовское множество и темное их богопротивное соборище, видяще многих людей благочестием просвещаемы, а идолы на земли попираемы, и рыдая диявол стоняше и сетуя, глаголя: «Увы мне! О, горе мне, яко и отсюду прогоним есмь! Зде бо мнях жилище себе имети, понеже зде не сут учения апостольскаго, и людие, не ведуще Бога, мне угодие творяху и служаху ми, о нихже веселяхся преже. Ныне же от таковых невеглас побежен есмь, а не от апостолъ, ни от мученикъ, и не имам уже царствовати во странах их»”.

А мы тут, *благочестием просвещаемы*, час ад часу весялімся, падгаворваючы сабе: З віном мы радзілісь, з віном мы памром і нас пахаваюць... паводле хрысціянскага абраду.

## Адгаданка

1. мусульманскія могілкі, 2. гарадскі пасёлак у Браслаўскім раёне, 3. гістарычная краіна на ўсходзе Францыі са Страсбургам, 4. аддае свае тканкі іншым хворым, 5. кінематаграфія, 6. касцельны музыкант, 7. вяршыня, 8. весялосць, задавальненне, 9. спосаб жыцця і дзеяння, 10. канчаецца Апакаліпсісам, 11. здольнасць бачыць, 12. з Маравіяй, 13. прыхільнік анархізму.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | 2 | | | | 3 | | | | | | | |
| | | | | | 4 | | | 5 | | | | | | 6 |
| | | | | | 7 | 8 | | | | | | | | |
| 9 | | | | | | | 10 | | | 11 | | | | |
| | | | | 12 | | | | | | | | | | 13 |

У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 50 нумара

Вярблюд, абзац, бязмен, шынель, цюк, зіма, сабор, вол, Чыкага, дым, макаўка, чай, вадалаз, палон.

Рашэнне: **Людзі больш каюцца за словы чым за маўчанне**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 13.01 — 19.01

**(22.03. — 20.04.)** Магчымыя паводзіны, якіх пасля будзеш шкадаваць. Твае сакрэты могуць быць раскрыты. Кантралюй свае паводзіны і эмоцыі. 13.01. — крытычны дзень. У панядзелак не прышчамі пальца. У аўторак адкрыюцца перад табой новыя магчымасці, ды намець сабе шлях адступлення. У пятніцу не ўспамінай імён сваіх непрыяцеляў.

**(21.04. — 21.05.)** 15-19.01. хопіць табе сілы, каб пазбыцца кепскіх звычак, якія не ідуць табе к здароўю. У тваім жыцці наступае светлая паласа, адкрыюцца новыя магчымасці, атрымаеш перавагу над іншымі, павялічацца твае даходы. Рыхтуйся да грамадскіх і дзелавых сустрэч. У чацвер праявіш свае таленты ў прафесійнай сферы. Ды 13.01. — крытычны дзень з грашыма і ў кар’еры.

**(22.05. — 22.06.)** Добры час для прапаноўвання сэрца і рукі, заключэння саюзаў і заснавання розных аб’яднанняў. Будзеш жвавы і ініцыятыўны, удадуцца ўсе справы, ва ўсім будзеш на вышыні. Ды ў панядзелак чакаюць цябе праблемы з уладнымі органамі. Пятніца — добры час для зачацця дзіцяці.

**(23.06. — 23.07.)** Маеш шанц пераканаць да тваёй думкі партнёраў і саюзнікаў. Пакарыстайся гэтым часам — пасля такога выпадку можа і не будзе! Можаш памірыцца, першым працягнуўшы руку. Аўторак вельмі спрыяльны для тых, хто займаецца інтэлектуальнай працай. У сераду смела бяры пазыку ці рабі капіталаўкладанні.

**(24.07. — 23.08.)** Недаакрэсленасці ў любоўных пытаннях, незразуменне і раздражненне. Можаш атрымаць падманную інфармацыю. Не вер таму, чаго не ўбачыш уласнымі вачыма! Не падпісвай непрачытаных дакументаў і не вер усляпую нават самым лепшым сябрам. Калі маеш грошы, бярыся за здзяйсненне сваёй запаветнай мары. У панядзелак можа цябе падвесці памяць. У сераду магчымая службовая паездка. У пятніцу і не думай пра развод.

**(24.08. — 23.09.)** 15-19.01. заспець цябе можа каханне з першага пагляду! Можаш падумаць пра інвестыцыі. Найбольшыя твае саюзнікі ў гэты дзень — інтуіцыя і ўява. Добры час для рэалізацыі творчых задум. Прыйдзе табе ў галаву шмат задум адносна ўзбагачання, ды не рэалізуй іх усіх адразу, каб не страціць. У панядзелак не назначай дзелавых сустрэч. У пятніцу ўсе твае дзеянні прынясуць дабро.

**(24.09. — 23.10.)** 15-19.01. будзеш мець магчымасць паказаць свае правадырскія таленты. Некаторыя твае планы трэба будзе змяніць; не злуйся на спазненні. Рыхтуйся да прыемных нечаканасцей на працы, у справах і бізнесе. Можаш дабіцца поспеху ва ўсіх сферах, без асаблівай натугі. Толькі будзь асцярожны пры новай інфармацыі, не прымай раптоўных рашэнняў.

**(24.10. — 22.11.)** 15-19.01. пастарайся наладзіць новыя знаёмствы. Можа хтосьці зацікавіць цябе больш. Хаця частка тваіх вялікіх планаў правaліцца, а іншыя трэба будзе адтэрмінаваць. Цяпер будуць вырашацца пытанні тваёй кар’еры, будзь ініцыятыўным. Прыбыткі можаш чэрпаць з розных крыніц, ды паашчаджай, каб хапіла на канікулы з мараў! У панядзелак не застрагні ў ліфце!

**(23.11. — 22.12.)** Можаш быць вельмі нервовым. Цяпер не канкуруй з нікім, бо можа табе не хапіць сілы. Усе падзеі аналізуй, абгледзь сітуацыю з розных бакоў. Добра карміся, асцярожна еж, таму што магчымыя харчовыя атручанні. У аўторак табе не ўдасца ўцячы ад непрыемнай размовы. Маеш шанц добра зарабіць, мары рэалізуй крок за крокам.

**(23.12. — 20.01.)** 15-19.01. могуць здзейсніцца твае найбольш сакрэтныя мары. Поспехі ва ўсіх сферах жыцця. Падмацоўвай супрацоўніцтва і свой аўтарытэт. У фірме цябе належна ацэняць. У панядзелак не дайся выкарыстаць.

**(21.01. — 19.02.)** Да 15.01. можаш адчуваць сябе няўстойліва. Не вер нічому, чаго не ўбачыш сам. Не адмаўляйся ад запрашэнняў на імпрэзы. У кар’еры не дзейнічай без падрыхтоўкі, падвучыся, правер тэрыторыю, не бойся крытыкі.

**(20.02. — 21.03.)** Рыбы, плывучыя ў адзіночку, могуць разгледзецца за другой палавінкай. У касе пуста? Выдумаеш пару магчымасцей, некаторыя шалёныя; парайся, зрабі карэктуру, і рэалізуй! Планаваць пачні ў панядзелак. У пятніцу здорава адпачні!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Ніва**
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# У Чаромсе мы не зусім чужыя

**З Артурам Пушкарэвічам і Аннай Катовіч-Пушкарэвіч,** артдэкаратарамі, аўтарамі маркі AZE DESIGN, якія сталі вядомымі ў свеце, гутарым у час адкрыцця іх выстаўкі ў беластоцкай Галерэі Сляндзінскіх.


Фота Міхала Косця

Анна і Артур Пушкарэвічы з дачушкай Нінай

***Ніва:** — Гэты чырвоны матыў на белым дыване напамінае беларускую вышыванку?*

**Анна Катовіч-Пушкарэвіч:** — Так, гэта фрагмент узору з народнага ручніка, тэхналагічна зменены ў стылі 1960-х гадоў. Ведаеце, карыстанне з розных узораў і тэхналогій гэта звычайная людская практыка. Чалавек заўсёды карыстаўся тым, што было, толькі паказваў гэта ў сучаснай яму тэхналогіі.

***Н:** — Адкуль такое зацікаўленне падляшскай этнаграфіяй?*

**Артур Пушкарэвіч:** — У момант, калі мы пераехалі з Варшавы жыць у Апаку, аказалася, што гэтая якасць жывая і патрэбная людзям. Гэты свет існуе ў штодзённым жыцці. Для нас гэта было новае адкрыццё, яно паказалася нам моцным і праўдзівым, таму зацікавіла.

***Н:** — Зараз этнадызайн вельмі модны ў свеце, але, калі Вы пачыналі, такога паняцця яшчэ не існавала. Вы, можна сказаць, першапраходцы...*

**АП:** — Сапраўды, калі мы пачыналі, гэтага не было. Сёння, гэты трэнд настолькі разбухаўся, што пачалася ствараецца нейкая цэпэлія...

***Н.** — Ці не было так, што ў Вашым выпадку спрацавала сямейная традыцыя. Калі з Варшавы Вы пераехалі жыць у Апаку, а пасля ў Беразышча, гэта было свайго роду вяртаннем да каранёў, на бацькаўшчыну. Гэтыя пласты традыцыйных каштоўнасцей былі ўжо ў падсвядомасці?*

**АП:** — Так часткова было ў маім выпадку, бо Анка з Варшавы. Мой бацька родам са Ставішчаў каля Чаромхі, маці нарадзілася ў Дзюсельдорфе ў расійска-ўкраінскай сям'і. Сам я дарастаў у Чорнай-Беластоцкай, так што Падляшша не было мне чужое...

***Н:** — Ці бацькі навучылі Вас разумаўляць па-свойму, так як гавораць у Чаромсе?*

**АП:** — Я выхаваўся ў сям'і, дзе нацыянальныя справы былі прыхаваныя і замоўчаныя. Магчыма паўплываў на гэта культурны мікс. У мяне беларуска-ўкраінска-запарожска-расейскія карані. Магчыма гэта паўплывала на закрытасць. Думаю, што я не адзін такі на Падляшшы. А ў Чаромсе мы ўжо шэсць гадоў...

***Н:** — Вас лічаць „сваімі"?*

**АП:** — Ведаеце, у Чаромсе немагчыма быць сваім сярод сваіх. Там шмат прыезджых, якія прыехалі за працай, ды той працы ўжо няма. Гэтага грамадства ніколі не ўдалося скляіць. У Апацы намнога лягчэй, там карэннае насельніцтва, людзі ведаюць сябе „ад заўсёды".

***Н:** — Ці гэта сямейныя карані прывялі спачатку ў Апаку, а цяпер у Беразышча, а можа была тут яшчэ іншая місія?*

**АК-П:** — У нас была ідэя пакарыстацца патэнцыялам грамадскасці, каб, напрыклад, даваць працу жанчынам, якія ніколі нідзе не працавалі, а маюць здольнасці выраблдяць высакаякасныя прадметы. Напрыклад, гэты шэры круглы дыван звязала на вялікім кручку вясковая жанчына. Такім чынам нам хацелася ўвайсці ў мясцовае грамадства, пакарыстацца іх патэнцыялам і да таго на прынцыпах абмену. Мы ім даем нешта ад сябе, яны даюць нешта ад сябе, і разам ствараем прадукт, які можна прадаць. І ўсе тут задаволены...

***Н:** — Што для Вас найбольш цэннае ў мясцовай эстэтыцы?*

АП: — Напэўна аўтэнтычнасць. У прадметах, якія зрабілі людзі, няма пустэчы, непатрэбных рэчаў, надзьмутай паказухі. Вельмі часта аздобы і ўпрыгожанні ўвасабляюць нейкі сімвал, магічнае пажаданне, пераказ. Усё тут існуе дзеля чагосьці. У сучасным свеце многа непатрэбных рэчаў, што выклікае разгубленасць. Калі мы адкінем усю непатрэбшчыну, наблізімся да ядра, тады пабачым, што чалавек зусім іначай думае пра прадмет. Добры прадмет павінен трымацца на трох асновах: трываласць, функцыянальнасць і не надта вялікі кошт вытворчасці. Сама катэгорыя прыгажосці ніколі не была асноўнай. Эстэтыка атрымліваецца натуральна з канструкцыі, з захавання прапорцый. Не бывае так, каб прадмет, у якога добры праект, прамаўляў дысгармоніяй...

***Н:** — Што канкрэтна паўплывала, што Ваш брэнд узнік з вартасцей, якія для многіх людзей на Падляшшы явяцца комплексам непаўнацэннасці?*

**АП:** — Напэўна адлегласць, дыстанцыя. Калі пасля гадоў пабыўкі ў свеце мы вярнуліся на Падляшша, нам было лягчэй пабачыць пункты, выняць іх з традыцыйнага кантэксту і даць ім новы кантэкст, універсальнасць.

***Н:** — Здаецца, дзверы ў свет Вам адкрылі ў Галандыі?*

**АП:** — Гэта быў I SALONI ў Мілане, куды запрасіла нас Лідэўю Эдэлькорт, назіральніца за трэндамі з Галандыі. Важнай для нас асобай, якая дапамагла нам прабіцца ў свет, быў Маркус Фарыс з Лондана. Пасля былі іншыя краіны, а з найбольшай цікавасцю нас успрымалі ў Ізраілі.

***Н:** — Ці Вашыя рэчы з Падляшша спадабаліся ў Японіі?*

**АП:** — Так і гэта нас уразіла. Відаць, мы спадабаліся па прычыне іншасці.

***Н:** — У Беластоку Вы першы раз. Ці на гэта паўплываў поспех у свеце? Ці людзі ў Беластоку маюць комплекс непаўнацэннасці?*

**АП:** — Усюды так ёсць. На пачатку паасобныя нашыя праекты былі прамоўчаныя ў Варшаве. Людзі не ведалі што пра іх сказаць. Яны чакалі, пакуль нешта скажуць іншыя. Беласток у вялікай меры вырас на базе вёсак і коштам навакольных мястэчак. Сёння тут вельмі цяжка сустрэць чалавека, які быў бы ў трэцім пакаленні беластачанінам. У мяне ўражанне, што людзі далей маюць комплекс гэтых месц, з якіх выехалі. Праз гэта яны не сапраўдныя — не вясковыя і не гарадскія.

***Н:** — У свой час Артур Пушкарэвіч быў музыкантам у беларускім рок-гурце „РФ Брага"?*

**АП:** — Я іграў на бас-гітары, ад моманту найбольшага ўздыму да канца існавання гурту. Так, было такое...

***Н**: — Зразумела, а якія зараз у Вас планы?*

**АП:** — О, гэта вялікая тэма. Нам удалося перад першым снегам перакрыць хату ў Беразышчы. Мы перавезлі будынак чыгуначнай станцыі, які калісь стаяў у Вітаве. Думаю, такім чынам выратавалі мы гэты прыгожы будынак ад разбурэння. Збіраемся зноў у Японію і нам многа трэба перадумаць, бо гэта іншая планета.

Н: — *Жадаем поспехаў і новага вяртання на Падляшша. Дзякуем за размову.*

**АК-П, АП:** — Усяго Вам добрага!

***Гутарылі Дыяна НАХІЛА і Ганна КАНДРАЦЮК***


Фота Ганны Кандрацюк

ISSN 0546-1960